
Творчасць як люстра жыцця → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Трапінкі ў пушчы → 9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 40 (3256) Год LXIII Беласток, 7 кастрычніка 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



Віктар Швед і Міра Лукша

# Сапфірны юбілей

**Міра Лукша вырасла ў мясцовасці Баравыя, якая з'яўляецца прысёлкам вёскі Пасекі. І яна быццам з тых Пасек, быццам пчолка, нястомна працуе на літаратурнай ніве. Быццам яна знаходзіцца пад нейкім літаратурным прыгонам, быццам увесь час адрабляе сваю парнасаўшчыну. Калі не загляну ў рэдакцыю, яна заўсёды, як тая пчолка кветачны пыл, руплівa збірае літаркі заносячы іх у Парнасаўскія пасекі. І Баравыя гэта ж таксама Пушчанскія, Белавежскія, Літаратарскія... Наша Юбілярка сёлета адзначае не толькі сапфірны 45-гадовы юбілей пад крыламі муз, але таксама дыяментавы юбілей яе спислання з Космасу ў наш тутэйшы свет. З гэтых нагод дазволю пажадаць Ёй каб трыгоны і квадрагоны нябесных свяціл няспынна прыносілі Ёй зорнае ззянне ў вачах. А пентагоны? Ну іх! Міры — мір!**

26 верасня, у Літаратурную сераду, ладжаную Падляшскай ксёнжніцай у яе актавай зале, адбылася сустрэча з нашай журналісткай Мірай Лукшай, сёлетняй лаўрэаткай беластоцкай літаратурнай прэміі імя Веслава Казанэцкага. Мадэравала сустрэчу і пытанні Юбілярцы ставіла Юстына Саўчук.

**— Як усё пачалося?**

— Мяркую, што мой першы літаратурны тэкст быў надрукаваны ў „Ніве" ў красавіку 1973 года. Быў гэта верш „Нарва рушыла" ў «Парнасіку», а ў кастрычніку на Літаратурнай старонцы Літаб'яднання „Белавежа" верш «Сэрца»; была я тады ў першым класе ліцэя. І першыя тэксты былі напісаны па-беларуску. Я іх мела прачытаць мітрапаліту Васілію, які наведаў маю прыходскую царкву ў Семяноўцы. Калі я прачытала, ён абняў мяне, пагладзіў, пацалаваў і сказаў: „Дзіця, ты пішаш па-нашаму, пішы далей". Я тады вельмі ўсхвалявалася ад такой цёплай заўвагі гэтага добрага чалавека, таксама натхнёнага нашай мовай. А пасля пісала, у прынцыпе, у „Ніву". Там была задуманая рэдактарам Валкавыцкім літаратурная рубрыка „Парнасік", якая дала старт пазнейшым прызнаным аўтарам. А маё жыццё завязалася вакол „Нівы". І ўсё маё спелае жыццё пайшло з беларускай мовай, з „Нівай". І гэта мяне вызначыла.

**— Ну, пісаць вершы сабе гэта адно, але паказаць сябе свету аўтарам кніжкі гэта ўжо іншая справа. Ці было гэта складанае рашэнне, ці быў гэта натуральны парадак падзей?**

— З майго літаратурнага дэбюту да выдання першай кніжкі прайшло шмат часу. Маёй першай кніжкай, з маімі ўласнымі ілюстрацыямі, бо я крышку і рысавала, быў тоненькі зборнічак прозы „Дзікі птах верабей" — быў гэта пачатак выдавецкага цыкла „Нівы"; як гаворыцца — добра птах вылецеў. Пазней прыйшлі цяперашнія плённыя гады, калі я адчувала сябе не найлепш фізічна, але кнігі выходзілі. Гэта дзякуючы дапамозе, духовай, маіх сяброў, якія паставілі мяне на ногі, бо апынулася я ў цяжкім стане, асабліва цялесным, бо духовы стараюся трымаць на прыстойным узроўні.

**— Якія эмоцыі спадарожнічалі першай кнізе: апаска ці цікавасць?**

— Кніжка становіцца ўласнасцю чытача; яна пачынае жыць сваім жыццём і ўжо яе не паправіш. Некаторыя тэксты паўстаюць знячэўку. Здарыўся такі верш, які быццам быў пасланы з Нябёсаў, пра Яна Тарасевіча, гэта „сапраўдны" верш задавальняючы ўсе патрабаванні паэзіі, але ён паўстаў адразу. Лічу, што натхненне было сапраўды нябеснае, твор з'явіўся цэласны, становячыся свайго роду сімвалічным тэкстам.

**— Пішаш пра месцы, якія Табе знаёмы, таксама пра людзей, якіх Ты ведала або мы ведалі. І часам узнікае такое прадчуванне, што Твае вершы надта прыватныя, інтымныя.**

— Бо вершы такімі павінны менавіта быць. У іх крыху эксгібіцыянізму, пішу пра сябе. Але калі пішу пра дрэва, то гэта таксама інтымнае і хвалюючае мяне. Гэта і вершы, што паўсталі раней, напрыклад „Іване, Іване", пра майго дзядка, які расказаў пра дзяўчыну, якую кахаў; прызнаўся пра гэта перад смерцю. І цягам дзесяці гадоў той верш паўставаў ува мне. Я ўвесь час працую ў слове, працую штодзённа — пішучы, перакладаючы; працую над чужымі тэкстамі, якія мусяць стаць маімі ўласнымі, яны праходзяць праз мяне, праз псіхіку, праз мае эмоцыі, нават фізічна, паколькі пішу пяром; тады працуе, у прынцыпе, мая галава. І тады працуюць іншыя часці галаўнога мозгу, чым у час пісання на камп'ютары. І той твор становіцца маім, пасля маёй апрацоўкі, уласным, інтымным. Пішучы пра постаці, напрыклад, тутэйшых, гэта не толькі верш пра кагосьці — гэта таксама верш пра мяне, пра мае адчуванні, пра мае эмоцыі.

**— Дуальнасць мовы. Ці бываюць такія сітуацыі, пра якія Ты ведаеш, што можаш іх апісаць толькі па-беларуску?**

— Можна паставіць пытанне, на якой мове сню. Беларуская мова — яна найбольш глыбінная, бадай найбольш інтымная. Мае першыя словы былі з гаворкі, вельмі памешанай. Мой бацька паходзіў з Цісоўкі, з абсалютна ліцьвінскага боку, а мая мама з ваколіц Семяноўкі, дзе гаворка ўжо пераходная. І ўсе гэтыя гаворкі спляліся ў маёй хаце. А даходзіла яшчэ лексіка бабулі і дзедка, якія былі ў бежанстве. Напрыклад, бабуля ўжывала слова *кушать. Кушать* — гэта такое смачнае слова, гэта не толькі есці, гэта смакаваць ежу смачную, вытанчаную. Або слова *заплюшчыць*, гэта не тое што закрыць вочы, але вельмі пачуццёва апісаць такі стан вока, якое стомленае і пагружаецца ў санлівасць. Я гуляю словам, не дазваляю каб яно стала скамянеласцю мовы дарослых людзей. Таму пішу і дзецям, бо сама з'яўляюся дзіцём, вялікім дзіцём, якое помніць той час, калі была бліжэй мурашак і травак, бліжэй глебы, якую я агледала, а можа нават смакавала — *кушала* гэту нашу зямлю. Мой першы верш быў бадай напісаны пра красу нашай айчыны, ён быў апынуўся пад ложкам, мама яго там знайшла і пытае што я напісала. А я пісала ідучы праз вёску Баравыя пасля дажджу. Быццам я ўмела чытаць з пяці гадоў, але навука пачалася ў семяноўскай школе. З другога класа была ў школе беларуская мова. Бацюшка Мікалай Шэбелян запрашаў вельмі часта наш клас на святочныя літургіі чытаць, помню, што ўжо ў трэцім класе чытала я кнігі на стараславянскай мове. Славяншчына была ўва мне здаўна. А сню? Адзін з выдатных паэтаў заўважыў: «Ты гаворыш па-свойму ў сне». А па-якому мне гаварыць? У сне гавару так, як пішу. Мой эксгібіцыянізм неардынарны; калі гляджу на свае тэксты, то здзіўляюся, як я так раскрылася перад людзьмі, аж занадта. Дзеля выдання такіх тэкстаў у кніжцы патрэбная адвага — гэта не могуць быць вершы злепленыя абы-як. І ўжо загаловак гаворыць пра змест кнігі, гаворыць пра мяне, напрыклад, „Радаслоў" — гэта радаслоўная кніга, мая. Калі гаворым пра кнігу „Спеў дрэў", то гэтая кніга і пра нас, гэтыя дрэвы нашы, а мы — іх.

**— Часта Тваё пісьменства асацыюецца з панаццем Падляшскай Атлантыды; так гаворыцца пра той свет, які Ты ў**

працяг ☞ 11

### Дарагой Міры Лукшы ў 45-годдзе творчай працы

Гляную ў ніваўскі куточак
І быццам не было нікога.
Раптам убачыў Міры вочы
Я з-за камп'ютара старога.

Пачуў я прывітання словы.
Маем супольныя прыкметы,
Пішам мы абавязкова
Для нашых беларускіх дзетак.

Я адыду, а Ты павінна
Пераняць маю дзялянку,
Каб дзеткі ў „Зорачцы" няспынна
Мелі сваю неспадзяванку.

Помніцца дэбют Твой свежы,
Падзяка нашая і слава!
Адна з паэтаў „Белавежы"
Ты ў Казанэцкага Веслава.

Хачу Табе я пажадаць –
Са здароўем быць шчаслівай,
Каб магла шмат напісаць
На ніве, а таксама ў „Ніве"!

**Віктар Швед**
Беласток, 26 верасня 2018 года.





# Людзі без ідэі

Зусім нядаўна прайшла афіцыйная інфармацыя — у Беларусі агулам налічваецца больш 10 тысяч ідэолагаў на дзяржаўнай службе. Гэта складае прыблізна цэлы невялікі раён па колькасці насельніцтва. Прыкладам такі як Зэльвенскі ці Свіслацкі. Цэлая армія прапагандыстаў-кантралёраў — людзей, якія прызваныя пільнаваць правільнасць і непахіснасць дзяржаўнай ідэалогіі, трымаць іншых у страху. Пасады ідэолагаў чатырнаццаць гадоў таму ўведзены начальнікам дзяржавы ва ўсіх працоўных калектывах, у якіх працаўладкавана не менш 150 чалавек. Падлічыць дастаткова цяжка, але можна ўявіць, што сумы грошай, выдаткаваных з дзяржаўнага бюджэту цягам 14 гадоў на заробкі гэтых „спецыялістаў”, а па сваёй сутнасці дармаедаў і нахлебнікаў, досыць значныя.

Заходняму чалавеку, напэўна, цяжка вытлумачыць, што ж гэта за загадкавая прафесія — ідэолаг — і ў якіх навучальных установах такому вучаць. Тым больш, што на іх нідзе сапраўды не вучаць у Беларусі — аніводная навучальная ўстанова краіны не выпускае такіх адмыслоўцаў з запісам „ідэолаг” у дыпломе.

Дык што ж гэта за людзі „асаблівага складу”, паклікання і місіі? Адкуль яны бяруцца? Дзеля паўнаты карціны варта дадаць, што з тых 10-11 тысяч ідэолагаў значная частка сумяшчае ідэалагічныя функцыі з іншымі працоўнымі абавязкамі. Але як можна казаць пра прафесійнае і якаснае выкананне тых абавязкаў, калі асноўнае заданне — гэта сачэнне, пільнаванне і „прамыванне мазгоў” падначаленым ці калегам ва ўстанове ці працоўным калектыве. Для тых, хто добра памятае савецкі час, у прынцыпе нічога новага, гэтыя ідэолагі створаны паводле вобразу і падабенства ранейшых савецка-камуністычных партыйных камітэтчыкаў.

Далей паўстае натуральнае пытанне — а якая ж ідэалогія ў гэтых стражаў дзяржаўных інтарэсаў? Якія ідэі павінны яны ўкараняць сярод тых, хто рэальна працуе. Пытанне заканамернае, паколькі сам начальнік дзяржавы не так даўно прызнаўся, што ніякай дзяржаўнай ідэалагічнай дактрыны дагэтуль яго падначаленыя, адказныя за такое фармуляванне, так і не прыдумалі. Атрымліваецца, што кожны канкрэтны ідэолаг сам павінен стварыць сабе такую канцэпцыю. Так і галава закруціцца.

Насамрэч усё куды працей. Галоўныя заданні ідэолагам даводзяцца ясныя і канкрэтныя. Прыкладам, яны павінны забяспечваць правільныя вынікі ўдзелу і галасавання на кожных „выбарах-вырабах”. Яны павінны не дапускаць і бязлітасна выкараняць крытыку начальства на канкрэтным прадпрыемстве, і, барані Божа, крытыку вышэйшых і нават вярхоўных улад. У кожнай недарэчнай ці абдзіральнай дзяржаўнай праграме яны павінны даводзіць, што „усё для фронту, усё для перамогі”. Яны павіны забараняць усё, што не адпавядае ўслаўленню існага ладу і цяперашніх парадкаў. Яны павінны не дапускаць ніякага вальнадумства — нават у выглядзе публічнага выступу нейкага непажаданага літаратара ці рок-музыканта. Так забараняюцца многія творчыя сустрэчы і канцэрты. Яны павінны сачыць, каб супрацоўнікі іх установы, фабрыкі ці завода не ўдзельнічалі ні ў якіх акцыях пратэсту. На гэты выпадак створаны кабальныя рабскія працоўныя „кантракты” — многія з людзей пазбавіліся працы менавіта з-за таго, што недзе выступілі ці папрысутнічалі там, дзе быць на думку ідэолагаў не павінны былі. А ўжо калі хто „засвеціцца” дзе-небудзь на мітынгу на фоне нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга — гэта расцэньваецца як страшнае злачынства з усімі наступствамі на працы.

Праца ідэолагаў дастаткова сабачая, бо цэлы час трэба сачыць за іншымі людзьмі, дакладаць, рапартаваць, арганізоўваць да такой дзейнасці іншых стукачоў. Дапускаю, што некаторыя з гэтых ідэалагічных работнікаў сапраўды патрыёты Беларусі, нават ведаю пару такіх чалавек. Аднак, гэта не мяняе сутнасці пераважнай бальшыні з гэтай ідэалагічнай „касты” — гэта людзі без трывалых ідэй у галаве і прынцыпаў. Сёння дзяржава вядзе татальную русіфікацыю — яны ў першых шэрагах такіх выканаўцаў, заўтра будзе дадзена іншая ўстаноўка — яны хуценька схіляцца туды. Што тут скажаш — людзі без ідэі...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Мы – цяпер

«Цяпер» штораз часцей спасылаюся на «калісь.» І чым старэйшым я станаўлюся, тым больш «калісь» становіцца «цяпер». Хоць гэта было не маім намерам, я адбываю своеасаблівае падарожжа ў часе. Вобразы мінулага і будучыні, здаецца, цесна заблыталіся. Адны рэзаніруюць на другія, на асобныя іх праекцыі, аднак, паказваюць тое самае, хоць і некалькі адрознае. Калісь было па-іншаму, інакш цяпер, яшчэ інакш будзе або ўжо ёсць. Прэснае ўладаранне ПіС накладваецца на мае дзіцячыя ўспаміны сярмяжнай гамулкаўшчыны. Тая ж рыторыка, тая ж шматслоўнасць прапаганды геркаўскай эпохі накладваюцца на пакручастыя заявы Маравецкага. «Мы хочам змяніць рэчаіснасць!» — запэўнівае старшыня ПіС. Я пытаюся, ці ў чарговую ілюзорную палітычную сістэму, можа, падобную на ленінскую ці яшчэ больш заблытаную?

Ілюзіі-утопіі — салодкая прынада для заблытаных натоўпаў. Яны кіруюцца інстынктам змен. Радыкальнымі зменамі ў палітычнай сістэме вабіць вядомы нам старшыня. Варта памятаць, што рэальнасць як такая, гэта сутнасць змен, трансфармацый, працягласці. Дык як жа змяняць тое, што па сваёй сутнасці зменнае? Хутчэй справа ў схапленні рэальнасці за морду. І за ёю — народу за рыла. Рэальнасць — няўмольная валацільнасць. Гэта проста рэальнасць. Хто каго падводзіць пад дурнога хату?

Я не магу дараваць сваім настаўнікам у беластоцкім ліцэі, не ўсім, вядома, але большасці ведзенай пануючым рэжымам па шляху гуляючых у дурняў, што і яны прабавалі мяне адурыць. І нават добра прытым гулялі. Сёння такую ўцеху маюць розныя Зёбры. Навука мінулага нічога не дала. Каб не канчаць на польскім прыкладзе, згадаю аб праблеме перанасялення. Калі я вучыўся ў пачатковай школе, казалі з трывогай, што зямны шар непазбежна вычэрпваецца ад лішку людзей. Было тады іх крыху больш за 2,5 мільярда. Сёння, хаця мінула ўсяго толькі некалькі дзесяцігоддзяў, ёсць іх амаль 7 мільярдаў. І надалей гаворыцца пра перанасяленасць. Множымся проста як бактэрыі. Назіраючы іх рост у лабараторыі ў кубках Петры, можаце чагосьці навучыцца. Іх насельніцтва павялічваецца, пакуль яны не пачнуць душыцца ў сваім уласным лайне! Ці стане так з чалавечым відам? Я веру, што не.

Калі гэта праўда, што чалавечы розум з'яўляецца свайго роду экранам, які адлюстроўвае рэальнасць, то ці на самой справе рэальнасць такая? Ці спазнаем яе такой, якой яна, ёсць, ці яна — проста праекцыя ў розуме? Будучыня ў гэтым кантэксце бачыцца вельмі невыразнай. Можа быць, яе нават няма. Ну, можа ўжо я дурнею?! Таму што глупства папракаць «будучыню» ў яе законным месцы ў лагічным працягу прычын і наступстваў. Такое ж чалавечае жыццё, абмежаванае мінуласцю нараджэння і будучыняй смерці. Ніяк гэтага не адмовіш. І ўсё ж такі...

Праблема заключаецца ў «цяпер». Мы не хочам жыць шэрай і паспалітай будучыняй. Мы марым пра бессмяротнасць. Замест проста жыць, усё рыхтуемся да вялікіх пачынаў. Перспектыва такой будучыні з'яўляецца вялікай ілюзіяй. Я ўпэўнены, што шэрае і звычайнае жыццё — самае шчаслівае. Але толькі для тых, хто можа разумна выкарыстоўваць час самастойна, тут і цяпер, абапіраючыся на эсенцыю быцця, гэты нектар паўсядзённага жыцця, кісла-салодкі, але ж жыватворны. «Пакуты і зной — тут шчасце і спакой», — пісаў В. Гётэ ў «Фаўсце». Я прачытаў гэта даўно, верагодна, нядбайна і няспела, і толькі цяпер прызнаю, што ён меў рацыю. Гэта не было б магчымым, аднак, калі б я раней не перажыў шмат няўдач і паражэнняў, узлётаў і маленькія трыумфаў. Сёння я цаню іх усе. Прытым словы Гётэ датычылі «цяпер» абмежаванага мінулым і будучыняй. Толькі ён прамаўчаў ягоную сканчанасць. Некалькі стагоддзяў ад яго раней паэт італьянскага Адраджэння Тарквата Таса прама апісаў межы «цяпер», прызнаючыся перад смерцю, што жыццё, добрае ці дрэннае, было б невыносным, калі б не смерць. Бо смерць заўсёды робіцца «цяпер». Ніколі раней або пасля. Жыццё таксама адбывае ў цяперашні час. Тое, што адбываецца ў нас, што ахоплівае нас страхам або здзіўляе, што напаўняе смуткам ці радасцю, у той жа час паддаем одуму, рэтраспекцыі і самааналізу. Што мы зараз перажываем. Іншымі словамі, «цяпер» з'яўляецца тым, што мы ўспрымаем свядома.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Пушча вандроўнікаў

Чалавек безупынна ў дарозе.Так было стагоддзямі, так і засталося па сённяшні дзень. Людзі вандруюць за хлебам ці за сямейнымі справамі. Уцякаюць перад хваробамі і войнамі. Рызыкуюць вандроўкі ў гандлёвых справах, каб зарабіць грошы. Была, ёсць і будзе шматмільённая група паломнікаў-вернікаў у кожнай канфесіі, што вандруюць у згодзе з прыказамі і праўдамі Божымі, але таксама адчуваючы ўнутраны голас суцішэння ў сакральнай прасторы.

Урэшце людзі пачалі вандраваць не толькі па гарызантальнай зямлі, але выбраліся ў неабсяжны, бязмежны космас, здаецца, з надзеяй і спадзяваннем каланізацыі гэтай вертыкальнай прасторы. Так як калісць у час вялікіх геаграфічных адкрыццяў людзі пазналі новыя кантыненты і народы, то зараз усе жывуць надзеяй на іншапланетнае засяленне і сустрэчу іншапланецян. Ці гэта песня далёкай будучыні, ці можа ўжо заўтра будзем сведкамі бліжэйшых, касмічных сустрэч? Пажывем, пабачым.

Вернемся аднак пакуль да рэальных, чалавечых нораваў. «Не сядзіцца яму ў хаце», — гавораць пра тых, што не могуць жыць без працы. Яны на панадворку, полі, ці дома заўсёды знойдуць нешта, пры чым можна пакорпацца. Іншыя непаседы цягнуцца часта да любой кампаніі, не «памятаючы» пра свае справы і абавязкі. «За кампанію то і цыган павесіўся», — часта чуюць пад сваім адрасам пасля чарговых, выпадковых, неспадзяваных бадзянняў. «Дастаткова толькі свіснуць, а ён напэўна прыбяжыць», — гаварылі пра такіх у маім наваколлі. Асобнай катэгорыяй у гісторыі ўсяго чалавецтва напэўна з'яўляюцца непаседы-плеткары і то ў такой самай ступені як жаночага, так і мужчынскага полу. Іх скручвае цікавасць, каб усё пабачыць і пачуць і яшчэ шмат чаго дабавіць ад сябе і хуценька разляпаць языком пра чарговую, таемную справу. Гатовыя яны адарвацца і пакінуць найбольш адказную працу, каб толькі забегчы да суседзяў ці сустрэцца са знаёмымі ў другім канцы горада, найчасцей дзеля запускання фэйк-ньюсаў у грамадскай прасторы. Бо ім язык так свярбіць, што не стрымаць. А аб жэрдку не пачухаешся ім, як у выпадку плячэй. Адзіны выхад даць яму волю.

Зразумела, што людзі звычайна вельмі цікавыя свету і кожны свабодны час скарыстоўваюць на спазнаванне бліжэйшых ці далейшых даляглядаў з яго ўсім чалавеча-прыродным багаццем. Бо ж не адкрываем нічога новага, заяўляючы, што ўся прырода безупынна ў вандраванні і руху. Адны віды па дарозе вечнасці адміраюць і назаўсёды знікаюць з нашай маці-зямелькі. Іншыя ў прыродна-звярыным свеце пачынаюць выціскаць другіх сваёй сілай ці ўмеласцю адаптавацца да новых умоў. На нашых вачах, а ў большасці скрыта ідзе бязлітаснае змаганне за выжыванне пасобных відаў жывёльнага і расліннага светаў. Тое, што найлепшае ў кожным гатунку стараецца даказаць сваю сілу і перадаваць свае гены наступным пакаленням.

У верасні сваю магутнасць адвечнай натуры ўсяму свету аб'яўляюць алені сваім ровам і змаганнем на рогі паміж сабою. Пашчасціла мне тры ночы быць слухачом іхняй сімфоніі жыцця і смерці. На ўскраіне Белавежскай пушчы ў роднай вёсцы кожны вечар ліліся галасы жальбы і нянавісці. Мне пашанцавала слухаць іх гукаў не ў якасці мона ці стэрэа. Прынамсі з чатырох супрацьлеглых напрамкаў да мяне ляцелі галасы пераможаных і пераможцаў, параненых і адкінутых самцоў-баевікоў — самотнікаў і кіраўнікоў статка. А вакол мяне быў малочны туман і месячная, ясная ноч. І цішыня, бо нават дрэвы стрымалі сваё дыханне. Сіла і моц алененых галасоў гэтымі начамі была так вялікай, што ўсе вясковыя брахлівыя сабакі замоўклі на гэтыя дні і з падмятымі хвастамі перлі ў свае буды ў шуканні бяспечнага месца. І то не абы-якім сабакам адышла ахвота да якога-небудзь брахання. Аўчаркі, што ў звычайныя дні могуць аленя дагнаць, загрызці і раздзерці на кускі, цяпер паводзілі сябе як нейкія маленькія хатнія сабачкі, што апрача прагулкі не бачаць божага свету. Бо магутнае права на сваё жыццё і далейшую зямную вандроўку апавяшчалі нам пушчанскія алені.

Яўген ВАПА

# Творчасць гэта люстра жыцця Лявона Тарасэвіча

Сёння гэта адзін з лепшых мастакоў у Польшчы. Прымаюць яго ў самых лепшых галерэях. Як падкрэслівае, цэлы час знаходзіцца ў дарозе, аднак знаходзіць час на сустрэчы са сваімі землякамі. Менавіта адна з іх прайшла 26 верасня ў камерным Склепе з культурай Аб'яднання АБ-БА. Вёў яе традыцыйна Мікола Ваўранюк. Сустрэча з мастаком давала магчымасць даведацца больш пра Лявона Тарасэвіча не толькі як пра мастака, але перш за ўсё як ураджэнца Падляшша і беларуса.

— Лявон, апрача таго, што з'яўляецца выдатным мастаком, мае адну файную рысу характару — ён сапраўдны. Ён адкрыта гаворыць аб гэтым, што яго баліць, што баліць нас, што нас непакоіць. Ён мае адвагу і ніколі не паўтараецца, — адзначыў Дарыюш Шада-Бажышкоўскі.

На сустрэчу прыйшлі сябры прафесара, але таксама асобы, якія ведаюць Тарасэвіча перш за ўсё праз яго творчасць. Невялікая зала ў Пачатковай школе № 4 у Беластоку была запоўнена гасцямі.

— Я была ў групе, у якой, можна лічыць, мы вучыліся жыццю, мастацтву... усяму. Ён вучыў нас як успрымаць мастацтва, як слухаць музыку. Калі толькі маю магчымасць, еду на выстаўку, сачу. Сустрэчы з ім інспіруюць. Кожная нагода на вагу золата, — сказала Іаанна Якубюк.

Лявон Тарасэвіч нарадзіўся ў 1957 годзе ў Валілах. Скончыў Варшаўскую мастацкую акадэмію. Менавіта ў студэнцкім перыядзе ўключыўся ў беларускае жыццё.

— Я да беларускага асяроддзя дайшоў на другім годзе студыяў. Тады наіўна прыйшоў у Беларускае таварыства, каб дастаць нейкія дыскі з песнямі, але яго старшыня — Хведар Галёнка сказаў, што не мае і даў мне нумар тэлефона да чалавека, які мог мець. Гэта быў нумар да Юркі Туронка. Пазней праз Туронка я пазнаёміўся з Янкам Максімюком і так пачалося. Разам стварылі студэнцкі часопіс «Сустрэчы». Гэта быў такі час, што для мне здавалася быць натуральным, што пасля вучобы ў Варшаве вяртаюся на вёску, на Падляшша.

Лявон Тарасэвіч падчас сустрэчы зазначыў, што «абапёрся» аб Варшаву, а пазней не мог бы ўзрастаць, калі б не кантакты са Швецыяй, Англіяй ці Італіяй. Творчасць Тарасэвіча была настолькі адарваная ад палітычнай і сацыяльнай рэчаіснасці, што ягоныя працы былі ўніверсальнымі.

— Калі грамада не мае мастацтва, тады яна не развіваецца, — дадаў прафесар. — З другой стараны, калі культура замыкаецца ў сабе, тады яна папросту гіне, калі ўваходзіць у дыялог, яна развіваецца. Гэта такі просты працэс.

У гэтым годзе прафесар Лявон Тарасэвіч атрымаў узнагароду імя праф. Аляксандра Гейштара між іншым за шматгадовае будаванне мастоў паміж рознымі этнічнымі, рэлігійнымі і моўнымі групамі польска-беларуска-літоўскага памежжа. Менавіта Тарасэвіч працягвае запачаткаваныя выдатным беларускім і польскім пісьменнікам і публіцыстам Сакратам Яновічам «Трыялогі», якія сёлета прайшлі ўжо дзевятнаццаты раз.

— Сакрат быў тым, чым Юрка Навасельскі ў мастацтве. Сакрат гэта ўсё перажыў раней і ён таксама быў адчужаны ў нашым беларускім свеце. Яго кантакты з Мысліўскім, Куранем давалі яму дыстанцыю. Наша асяроддзе мела такі кансерватыўны свет, а мадэль паэта ці пісьменніка была на ўзор савецкі, — сказаў Лявон Тарасэвіч.





Сёлета «Трыялог» адкрыла мастацкая выстава ў галерэі «Крынкі». Яна называлася «PRA__BEL», і паказвала працы мастакоў, якія цяпер жывуць і працуюць па-за межамі Беларусі. Яе куратарам быў беларускі мастак Андрэй Дурэйка.

— Маленькія Крынкі могуць быць большымі, чым Беласток. І для некаторых большы сэнс паказаць свае працы ў Крынках, чым у Беластоку. Хочам, як фонд Віла Сакратэс, супрацоўнічаць з галерэяй «Ў» у Менску. Часта ёсць так, што маленькія месцы, які маюць кантакт з іншымі важнымі асяродкамі, робяць больш, чым вялікія галерэі. Галерэя «Фоксаль», як была малая, такая і ёсць. Таксама і тут. Збудаванне інтэлектуальных месцаў больш робіць для нас, чым невядома якія месцы з аграмаднымі грашыма. Пра выстаўку ў Крынках пісаў нават «Шум». У Польшчы няма беларускага мастацтва на высокім узроўні. Дурэйка будзе такой асобай у беларускім мастацтве, як Ежы Онух у мастацтве ўкраінскім. Гэта вельмі цяжкая пазіцыя, калі ты маеш быць куратарам і акрэсліць узровень мастацтва.

Цягам бліжэйшага месяца ў мінскай галерэі «Ў» будзе можна паглядзець супольную выстаўку беларускіх мастакоў замежжа, сярод якіх будуць працы Лявона Тарасэвіча. Менавіта на думку Тарасэвіча адміністрацыйныя межы не так важныя, як культурныя.

— Не столькі супольнага маюць мае работы з жывапісам, які ёсць у Польшчы, колькі з жывапісам мастакоў, які выйшлі з прасторы Вялікага Княства Літоўскага, з гэтай зямлі. Яны мне нашмат больш блізкія, чым тое, што адбывалася ў Польшчы. Я не маю гэтага рацыянальнага падыходу да жыцця.

Сустрэча з прафесарам Лявонам Тарасэвічам прайшла ў рамках дыскусійнага клуба АБ-БА.

— У жыцці важнае з кім чалавек сустракаецца. З сустрэч пазней нараджаюцца файныя рэчы. Дзякуючы такому асабістаму знаёмству можна пазней пакарыстацца і паказаць іншага Лёніка, — адзначыла Аліна Ваўранюк. — Не толькі Лёніка як мастака, але Лёніка як чалавека, які расказвае пра сваіх суседзяў, знаёмых, які вельмі эмацыйна расказвае пра сваё жыццё.

— Думаю, што ў гэтым заключаецца цэлая таямніца. Калі людзі сустракаюцца і размаўляюць, тады паўстае энергія. Трэба, каб толькі сустракаліся і гаварылі з іншымі, — сказаў пасля сустрэчы Лявон Тарасэвіч.

Тэкст і фота
**Уршуля ШУБЗДА**

Міхал МІНЦЭВІЧ

# У арлянскай школе

У Пачатковай школе з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Орлі ў 2018/2019 навучальным годзе працуюць 34 настаўнікі (у мінулым 36). Адміністрацыйнага і абслугоўвага персаналу 20 асоб, у тым ліку чатыры памочнікі настаўнікаў. Пададзены дзве заяўкі ва Управу працы на інтэрвенцыйныя работы (у абагравальным сезоне будуць працаваць трох качагараў). У бягучым навучальным годзе вучацца 203 вучні (у мінулым 210): 50 у дашкольным аддзяленні, 141 у пачатковай школе і 12 у гімназіі. У школе два дашкольныя аддзяленні і клас шасцігодкаў.

### САЦЫЯЛЬНЫЯ СТЫПЕНДЫІ

Прыбытковы крытэрый для гэтай дапамогі вызначаны на ўзроўні 514 злотаў на аднаго сямейніка. У мінулым навучальным годзе пададзены былі 28 заявак (годам раней 43); усе яны былі абмеркаваны станоўча. Агульныя затраты на стыпендыі склалі амаль трынаццаць з паловай тысячы (у гэтым ліку амаль пяць тысяч з дзяржаўнай казны).

Іншай формай матэрыяльнай дапамогі быў школьны пасаг. Гміна атрымала датацыю ў амаль 23 тысячы злотаў на абсталяванне сямі класаў пачатковай школы і двух класаў гімназіі. Закуплены былі падручнікі для 83 вучняў і практыкавальныя матэрыялы для 130 вучняў пачатковай школы ды 18 падручнікаў і 30 практыкавальных матэрыялаў для вучняў гімназіі. Да таго ж, адпаведна, 4 і 5 вучням патрабуючых спецыяльнай арганізацыі навучання.

Арлянская гміна ў 2017 годзе атрымала мэтавую датацыю велічынёй амаль у 47 тысяч злотаў на дафінансаванне задач дашкольнага выхавання і на бягучыя расходы. На давоз вучняў у 2017/2018 навучальным годзе Арлянская гміна затраціла звыш 14 тысяч злотаў.

### СТЫПЕНДЫІ ВОЙТА ЗА ВЫДАТНУЮ НАВУКУ

За I паўгоддзе стыпендыі агульнай вартасцю 11 тысяч злотаў атрымала 27 вучняў, за II паўгоддзе — 36 (у тым ліку 9 завяршаючых навуку) на агульную квоту 17 750 зл. Агулам за 2017/2018 навучальны год — 28 750 зл.

* * *

У Орлі ад пасляваенных гадоў да 1985 года дзейнічала прадшколле. Яно спыніла існаванне калі пляц з будынкамі гміннай управы, дома культуры, бібліятэкі, прадшколля, клуба і пошты прызначылі пад пабудову будынка новай школы, які здалі ў карыстанне ў снежні 1992 года. Адсутнасць прадшколля ўскладняла бытавыя справы насельніцтва.

**Пра дашкольныя аддзяленні размаўляю з Марыяй ТОМЧУК, дырэктаркай Пачатковай школы ў Орлі.**

— У бягучым навучальным годзе ў нашай школе працуюць тры дашкольныя аддзелы: 24 дзетак трох- і чатырохгадовых, 13 пяцігодкаў і 16 шасцігадовых дзяцей. Кожны аддзел займаецца ў асобнай зале. Два аддзелы наймалодшых дзетак знаходзяцца ў асобнай частцы школьнага будынка, маюць свой санітарны вузел і дадатковую апякунку.

Шасцігадовыя дзеткі ўжо больш адкрытыя на школу і яны ў суседстве першага класа. Санітарныя ўмовы таксама адпаведныя да ўзросту дзяцей. Цягам апошніх гадоў былі выкананы шматлікія рамонты дзеля дастасавання санітарных умоў для малодшых дзяцей.

Дзеткі прабываюць у дашкольных аддзелах, магчыма гэта з 7.00 да 16.00 гадзіны — гэта вельмі выгадна бацькам. Наш самаўрад даў такую магчымасць, бо апрача пяці бясплатных гадзін, якія гарантуе дзяржава, бацькі маюць шанс пакінуць дзяцей пад апекай выхавацелек на больш гадзін. З сёмай гадзіны раніцы, калі бацькі падаюцца на працу, нашы аддзелы ўжо адкрыты, там ёсць ім апека, а калі ў 13.00 гадзін канчаюць свае абавязковыя заняткі, яны могуць заставацца да чацвёртай пасля поўдня. Тады настаўнікі працуюць у рамках пазаўрочных заняткаў. Усе заняткі дашкольнікаў пяцігадзінныя, а пасля ў святліцы яны развіваюць свае зацікаўленасці, гуляюць пад наглядам апекуноў. Такі парадак вельмі цешыць бацькоў.

З сямі да шаснаццаці гадзін шмат часу і з гэтым звязана таксама харчаванне дзяцей. Усе дашкольнікі снедаюць у 8.30, пасля маленькія дзеткі ў 11.00 абедаюць, адпачываюць. Старэйшыя, пяці- і шасцігадовыя, абедаюць у 12.00 гадзін. У 13.00 гадзін бацькі могуць забіраць сваіх дзяцей, але радуе нас, што многія дзеткі застаюцца на дадатковыя заняткі. А ў 14.00 гадзін ёсць чарговае харчаванне — г.зв. падвячорак у школьнай сталовай.

Кошт харчавання невысокі — 4,5 злота для дашкольнікаў, а абед для нашых вучняў — паўтара злота. Бацькі плацяць толькі за „ўклад у кацёл", апошнія кошты пагашаюць субвенцыя і гмінная даплата. Сем'і могуць таксама атрымаць дафінансаванне з Асяродка дапамогі і многія ім карыстаюцца; гэта вялікі плюс.

Арлянская школа прымае таксама ўдзел у праграме „Садавіна і гародніна ў школе" — вучні з першага да пятага класаў і „Малако ў школе" (з Сельскагаспадарчага агенцтва) — гэта для шасцігодкаў і дзяцей пачатковага навучання — бясплатна.

**— Ёсць новая настаўніца беларускай мовы?**

— У мінулым годзе мы ўзялі на працу на паўстаўкі, яна працавала вельмі паспяхова. У бягучым навучальным годзе яна працуе толькі ў нас.

**— Якая зацікаўленасць дзяцей і бацькоў вывучэннем беларускай мовы?**

— Зацікаўленасць дзяцей большае, бо ж вядома, што маладая настаўніца больш атракцыйная чым мы, старэйшыя. Я заўважыла вельмі прыемную справу — бацькі вучняў другога класа дапісалі ішчэ дзяцей і амаль усе дзеткі ў другім класе ўдзельнічаюць у занятках беларускай мовы.

**— А працэнтна: колькі дзяцей вывучае беларускую мову: палова?**

— Ну, яшчэ не. Таму што ў гімназіі вывучае дзве асобы на трынаццаць.

**— Запытаю пра „Ніву": школа падпісваецца, на колькі экземпляраў?**

— Школа падпісваецца на „Ніву". Школа як установа выпісвае адну „Ніву" ў бібліятэку.

**— Чаму так мала?**

— У бібліятэцы маем па адным асобніку, вучні могуць карыстацца. Карыстаецца таксама настаўніца анлайн, бо ёсць доступ да розных матэрыялаў. Але спадарыня Аня намагаецца пабольшыць падпіску „Нівы". У мінулым годзе спадарыня Аня і вучні ўдзельнічалі ў майстар-класах „Зоркі", яны былі рэдактарамі і я мяркую, спадзяюся, што яны будуць далей пісаць у „Ніву".

**— Можа скажаце нешта ад сябе пра школу?**

— Нашай школай магу толькі ганарыцца.

**— Дзякую за размову.**

# Еўрапейскія дні спадчыны па-арлянску

У суботу і нядзелю, 8 і 9 верасня, адбыліся ўжо другі раз у Орлі Еўрапейскія дні спадчыны. На жаль, гледачоў было сёлета менш чым летась; амаль зусім іх не было — ні пажылых, ні дзяцей. У суботу ў адпачынкавым парку прысутнічалі толькі працаўнікі Гміннага асяродка культуры, дзеці прэзентуючыя паказ мод ETNOkreacje ды калектыў „Гістарыён" з Мінска. Было беластоцкае тэлебачанне, якое здымала паказ мод (той сам, які тыдзень раней адбыўся ў рамках фэсту „Арлянскія сустрэчы"), быў войт Пётр Сэльвесюк са сваім сынам, я як радны ды некалькі асоб, якія заглянулі ў парк мімаходам. Арганізатары запланавалі перформерскія дзеянні з мэтай паказання шматкультурнасці Арлянскай гміны, дзе цягам стагоддзяў сутыкаліся і пранікаліся шматлікія культуры.



У нядзелю ўдзельнікам мерапрыемства была запланавана тэрытарыяльная гульня „У пошуках гісторыі", наведванне арлянскіх сінагогі і царквы. І атрымалася як атрымалася — без зацікаўленасці з боку жыхароў. Магчыма, што гэта нават добра, бо мясцовыя ўсё гэта ўжо пазналі і аглянулі (напрыклад, кароткія фільмы з расказамі жыхароў Орлі пра яўрэяў). Адна маладая жанчына з дзіцём здзіўлялася, чаму не прыйшлі на мерапрыемства іншыя маладыя бацькі са сваімі дзяцьмі, а нават не было тых бацькоў, чые дзеці актыўна прымалі ўдзел у мерапрыемстве. Гэтыя талковыя пытанні пакуль што застаюцца без адказаў.

Новае ў Орлі гэта адсутнасць зацікаўленасці маладых мешаных сужонстваў і навасёлаў мясцовай культурай і традыцыяй ды іх носьбітамі; але гэта асобная тэма.

Орлю амаль штодзённа наведваюць нейкія турысты аглянуць сінагогу і асабліва цешыць тое, што менавіта ў нядзелю было іх дзве ці тры групкі — паглядзелі, пасядзелі...

Пра арлянскія Еўрапейскія дні спадчыны спытаў я Анну Несцярук, дырэктар Гміннага асяродка культуры...

— Усе мерапрыемствы ладзім для нашых жыхароў, а яны выбарачна адносяцца да нашых дзеянняў. Гэта розныя падзеі: фэсты, сустрэчы. Сёлета Еўрапейскія дні спадчыны мы падрыхтавалі з разлікам на маладых людзей. І наша дзеянне ў агульным маштабе таксама скіравана да моладзі і дзяцей. І вельмі цешыць, што Еўрапейскія дні спадчыны прыцягнулі дзяцей. Таму мы яшчэ раз зладзілі праект ETNOkreacje, які быў паказаны на „Арлянскіх сустрэчах"; падумалі, што варта яшчэ раз паказаць гэтых дзяцей — яны вельмі цяжка працавалі і варта імі ганарыцца, што займаюцца нашым мясцовым фальклорам. Шкада, што не было бацькоў, магчыма была на працы ці занялі іх нейкія іншыя важныя справы. Паспрыяла нам надвор'е.

Мяркую, што Орля не прывыкла да адзначання Еўрапейскіх дзён спадчыны. У мінулым годзе была інаўгурацыя, вельмі цікавая, з канцэртам добрага беларускага калектыву; і таксама не было зашмат людзей. Думаю, што не ўсім падыходзіць тэматыка. Больш цікавыя людзям „Арлянскія сустрэчы", дзе цягам некалькіх гадзін можна слухаць народную музыку. Спадзяюся, што ў будучым годзе будзе больш публікі, а ў чарговым — яшчэ больш. І мерапрыемства ўкараніцца ў каляндар нашых культурных дзеянняў.

* * *

Варта адзначыць, што 17 лістапада 2017 года ў час параднай урачыстасці ў Аполі былі ўручаны вылучэнні арганізатарам юбілейнага, 25-га выпуску Еўрапейскіх дзён спадчыны ў Польшчы. Атрымалі іх Музей сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы, войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк, дырэктар ГАК Анна Несцярук, Музей малой айчыны ў Студзіводах, Павятовае староства ў Сувалках ды Згуртаванне спадчыны Падляшша ў Пухлах.

* * *

У сёлетнім інфармацыйным буклеце віцэ-міністр культуры і нацыянальнай спадчыны Яраслаў Селін напісаў ва ўступе: „Адкрывайма супольную еўрапейскую і польскую спадчыну, пазнанне якой не толькі дазволіць нам зразумець нашу мінуўшчыну, але таксама дазволіць вызначыць нашу будучыню".

Тэкст і фота
Міхала МІНЦЭВІЧА

# Эмацыйны тэатральны Усход

Тыдзень тэатральных эмоцый завершаны. У Беластоцкім драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі з 22 да 30 верасня праходзіў фестываль «Напрамак Усход 2». Летась праект прайшоў так паспяхова, што яго працягнулі і больш таго пашырылі геаграфію. Калі на мінулым, першым фестывалі, выступалі калектывы з Беларусі, Украіны і Польшчы, то сёлета яшчэ і Літва дадалася. З Беларусі на фестываль прыехалі два творчыя калектывы: Гарадзенскі абласны драматычны тэатр (спектакль «Паляванне на пацукоў») і Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі («Тры Жызэлі»). З Польшчы, па-першае, гаспадары пляцоўкі: выступілі акцёры тэатра імя Аляксандра Вянгеркі са спектаклем «Апавяданні пра звычайнае шаленства», прыехалі з Жэшава акцёры тэатра Ванды Семашковай са спектаклем «Pogorzelisko» ды з Тэатра Польскага з Бельска-Бялай. Яны паказалі спектакль «Святы ідыёт», сваё бачанне твора рускага класіка Фёдара Дастаеўскага «Ідыёт». На фестывалі Украіну прадстаўляе Нацыянальны акадэмічны ўкраінскі драматычны тэатр імя Марыі Заньквавецкай. З-за тэхнічных прычын тэатр не даехаў, але спектакль не адмянілі, а перанеслі на 1 снежня. Класічную пастаноўку «Рэвізор» па Гаголю ў выкананні ўкраінскіх акцёраў яшчэ ў Беластоку абавязкова пабачым. Затое ў рамках фестывалю на малой сцэне беластоцкага тэатра два разы (а значыць, спектакль мела магчымасць пабачыць большая колькасць гледачоў) паказалі монаспектакль з Літвы «Коба/Сталін» у выкананні Аляксандра Рубіноваса. Монаспектакль — гэта асобны жанр, а праца літоўскага акцёра — вартая ўвагі.

Як кажа дырэктар беластоцкага тэатра Пётр Пулторак спектаклі аб'яднаныя тэмай памежжа, разнастайнасці культур. А ў гарадах, што прадстаўленыя на фестывалі — Беласток, Львоў, Гародня, Менск, а таксама Бельска-Бяла, Жэшаў і Коўна ў Літве — сутыкаюцца розныя культуры, ствараючы выбуховую мяшанку. Гэта ўплывае на развіццё культуры і яе характар.

Для беластоцкага тэатра фестываль «Напрамак Усход» — гэта таксама магчымасць наладзіць кантакты. У Беласток прыехалі акцёры Гарадзенскага абласнога драматычнага тэатра. Кантакт з суседзямі абарваўся ў 2000-х гадах, а цяпер усё абнавілася і акцёры беластоцкага тэатра збіраюцца з гастролямі ў Гародню ў пачатку наступнага года і павязуць туды два ці тры спектаклі.

Ужо некалькі гадоў дзейнічае дамова пра супрацоўніцтва беластоцкага тэатра і Беларускага рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі з Мінску. Узаемныя гастролі, як беларускіх акцёраў у Беластоку, так і польскіх у Мінску, праходзяць на «выдатна», так заяўляюць абодва бакі. Тэатральныя калектывы дараслі да супольнага праекта. У планах — агульны спектакль, калі на адной сцэне сустрэнуцца і польскія, і беларускія акцёры, а спектакль будзе ісці як на сцэне ў Менску, так і на беластоцкай. Пра гэта расказала дырэктар Рэспубліканскага тэатра Святлана Карукіна ды заінтрыгавала; маўляў, больш нічога не скажу, будзе сюрпрыз і праект атрымаецца «выбуховы».

Але за тэатральнымі кулісамі шмат што можна пачуць. Па сакрэце вам раскажу тое, што сам даведаўся: размова ідзе пра пастаноўку «нешта з Мрожка», рэжысёр Аляксандр Гарцуеў, мова — беларуская і польская, тэрміны пакуль невядомыя. Але ідэя ёсць і на яе працуюць два тэатры.




### ШЧАСЦЯ НЯМА...

І дадам, калі не будзеш сабой. На малой сцэне тэатра — спектакль з Гародні «Паляванне на пацукоў» (п'еса Пэтэра Турыні, рэжысёр Генадзь Мушперт). Яшчэ ў 1971 годзе тэкст Турыні выклікаў скандал і шок у еўрапейскім тэатральным асяроддзі: як гэта — на сцэне смецце, смецце таксама ў галовах, унутры і звонку галоўных герояў. Гэтага смецця так шмат. Тады еўрапейцы не былі гатовыя да такой трактоўкі асобы, а яны на сцэне яшчэ і распранаюцца, каб агаліцца перад сабой і скінуць з сябе ўсё непатрэбнае.

— Скандалы даўно прайшлі і забытыя, яны нас не цікавяць, — жартуе рэжысёр спектакля і мастацкі кіраўнік Гарадзенскага тэатра Генадзь Мушперт.

Там вырашылі па-свойму прачытаць тэкст, які і сёння актуальны. Занадта гэта не проста быць самім сабой, так у тэатры акрэсліваюць галоўную думку. А на сцэне мы бачым, як героі (хлопец і дзяўчына) прыязджаюць на сметнік, каб схавацца ад грамадства, хлопец любіць паляваць на пацукоў, бо ў мужчынскай прыродзе закладзена — забіваць. Яны на першым спатканні і, канешне, хочуць адзін аднаго спазнаць. Аказалася — у дзяўчыны штучныя валасы, а ў хлопца — штучныя зубы. І шмат усяго штучнага... ад элементаў адзення да думак, успамінаў і ўяўленняў пра жыццё. Яны імкнуцца выкінуць усё штучнае і аказалася... голыя стаяць, пустыя, але сапраўдныя... Стрэлы. І іх забіваюць. Гэта чарговая парачка прыехала на сметнік, каб упаляваць пацукоў і спазнаць адзін аднаго. Гісторыя нібы паўтараецца. Забіваюць і герояў, і іх вобразы, якія імкнуліся «стаць сабой», але каму яны такія патрэбныя ў грамадстве, што існуе па канонах штучнасці. Іх забіваюць не людзі, а грамадства. Такі вось сімвал.

На сцэне мы не бачым тон смецця, якія ў пачатку 70-х гадоў шакавалі еўрапейскага гледача. У Гарадзенскім тэатры выбралі іншыя выразныя сродкі. Героі апранутыя ў гламурнае адзенне, іх атачаюць рэчы, без якіх не абыходзіцца сучасны чалавек: грошы, машыны, касметыка... усё, што дапамагае нам трошкі пакрасавацца, выглядаць лепшымі.

Спектакль ішоў на камернай сцэне, а ў выходны дзень на плошчы перад беластоцкім тэатрам гракатаў рок-канцэрт. Напэўна, гукі звонку перашкаджалі акцёрам працаваць на сцэне. Але гэта таксама прыкметы нашага жыцця — гукі, папса альбо рок, якія ў галовах. Прынамсі так пасля спектакля жартавалі акцёры.

### ГІСТОРЫЯ КРАІНЫ, СІСТЭМЫ, ШТО ЗАДАВІЛА

Жызэль — імя лёгкае, пяшчотнае, далёкае і рамантычнае. Але чаму на лёс жанчыны, з такім незвычайным імем выпадае столькі выпрабаванняў? Больш таго, праз яе лёс нам расказваюць пра цэлае «пакаленне зламаных». Спектакль «Тры Жызэлі» рэжысёра Аляксандра Гарцуева па п'есе Андрэя Курэйчыка з'явіўся ў рэпертуары Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі ў студзені 2013 года і да гэтай пары на яго ахвотна ходзяць гледачы. Падзеі п'есы Андрэя Курэйчыка, створанай паводле рэальнай гісторыі жыцця Жызэль Купэс, адбываюцца ў трох этапах: Францыя 1940 года, беларуская вёска Карзуны ў 1957 і ў 1999 гадах.

Тры плоскасці спектакля: Жызэль вясенняя, маладая, натхнёная, закаханая і жыве ў Парыжы. Яе каханы па іранічнай выпадковасці загінуў, яна перажыла гэты боль і ўжо пазней, на вайне ў Нармандыі сустрэла беларускага хлопца Сяргея, за ім пасля вайны прыехала ў беларускую вёску Карзуны.

Жызэль летняя жыве ў Карзунах з мужам Сяргеем, якога зламалі — ён ужо не той рамантычны хлапчук. Як былы ваеннапалонны (чаму здаўся ў палон, а не загінуў?! — такая логіка савецкай сістэмы) ён адседзеў у лагерах і цяпер пад пільнай увагай спецслужбаў. Шмат п'е, б'е жонку, крадзе ў калгасе. Пасадзілі «на хімію», там здрадзіў. І вось Жызэль можа паехаць назад у Парыж, але... сістэма не выпускае дачку, дазволу няма, бо яна грамадзянка савецкай дзяржавы.

Жызэль вясенняя жыве ў тых жа Карзунах. Муж памёр 30 год таму, а дачка спілася, як тысячы жанчын на вёсцы і толькі прыходзіць да маці, каб пазычыць грошы, якіх ніколі не верне. Засталіся толькі ўспаміны пра той Парыж ды тую Жызэль вясеннюю. Шчаслівую.

Гэтыя ролі ў тэатры граюць два склады акцёраў. У Беластоку мы пабачылі Жызэль асеннюю ў выкананні народнай артысткі Беларусі Таццяны Мархель, летнюю Жызэль выканала заслужаная артыстка Беларусі Людміла Сідаркевіч і вясеннюю — Гражына Быкава.

— Чаму гэта жанчына ўсё церпіць?
— пытаюся я ў актарак.

— Тут ёсць такая фраза: не пакідай мяне, я не магу губляць і цябе таксама, — кажа народная артыстка Беларусі Таццяна Мархель. — Яна згубіла першае вялікае каханне, а тут хлопец-беларус і яна баялася таксама страціць яго і застацца адна. А нам, жанчынам, вельмі цяжка заставацца адзінокімі. Я гэта па сабе ведаю, — усміхаецца Таццяна Мархель.

— То жанчына павінна цярпець?

— Не ведаю. Я папраўдзе ўспамінаю ўсё самае лепшае, бо ёсць тое лепшае. А таму ўсё церпіш і спадзяешся на тое лепшае.

— Яна ахвяра абставін, я так сабе гэта тлумачу, — далучаецца да размовы Людміла Сідаркевіч. — Жызэль сабой ахвяравала дзеля дачкі, якую не выпускалі. Яна магла паехаць, але не магла пакінуць дачку. Для мяне гэта гісторыя краіны, якая задавіла ўсё і ўсіх, — кажа актрыса.

### З ТАКІМ СЯБРАМ І ВОРАГА НЕ ТРЭБА

Мне так хочацца напісаць: гэты спектакль пра сяброўства. Калі твой сябра Іосіф Сталін — гэта трагедыя. Гісторыю пра тое, як ламалі асобу і яго лёс, нам расказаў літоўскі акцёр Аляксандр Рубіновас з Каўнаскага камернага тэатра. «Мы з ім сябравалі. Мы пасябравалі ў ліхі час». Старэнькі і адзінокі грузін Фудзі пачынае распавед і мы разумеем: ён сябраваў са Сталіным. Цяжка пераказваць гісторыю, якую ты пачуў са сцэны беластоцкага тэатра. Спектакль вельмі моцны. Акцёр расказвае шчымлівыя фрагменты жыцця свайго героя і ты ім верыш, бо з гісторыі памятаеш — часы сапраўды былі трагічныя.

— Гэта тэкст расейскага драматурга і публіцыста Эдварда Радзінскага, а мы з яго зрабілі монаспектакль, — расказвае акцёр — паводле якога (па чутках) нібы сапраўды быў такі Фудзі, адзіны са старых сяброў Сталіна, які яго нават перажыў.

За акцёрам Аляксандрам Рубіновасам неверагодна цікава назіраць, слухаць, задавацца разам з ім пытаннямі. Ён табе расказвае са сцэны як сам Сталін няўмела жартаваў і называў Фудзі — Фудзіяма, на японскі манер. А потым героя асудзілі на 8 гадоў лагераў за нібы «шпіянаж на карысць Японіі». Вось так Сталін пажартаваў. І, здаецца, тут табе хочацца пасмяяцца, але варта плакаць. Маўклівае пытанне: «За што?». Толькі ў канцы мы зразумеем, што Сталін так баяўся сваіх старых сяброў, якія яго ведалі «не як бацьку ўсіх народаў», а як салдата, што проста ўсіх іх вынішчаў, каб тыя не знішчылі яго. Са старых сяброў застаўся толькі Фудзі, бо яго зламалі, зрабілі нявольным слабым чалавекам, у якога не было сіл перашкаджаць. Рэжысёрам гэтага дзейства быў сам Сталін.

— Дастаткова брыдкі гістарычны персанаж. Навошта ён вам?

— У мастацтве, калі ёсць чорнае і белае, калі мы бачым станоўчае і адмоўнае — гэта ўжо не мастацтва, — тлумачыць акцёр Аляксандр Рубіновас. — Наша задача паказаць асобу рознабакова, каб не было адназначнасці. Каб не дапускаць плоскасці мастацтва. Тым больш я не граю Сталіна, яго я паказваю праз свайго героя Фудзі. А той і баіцца, і ненавідзіць, і нават любіць Сталіна.

Аказваецца, Сталіна таксама можна любіць, плакаць на яго пахаванні і шчыра яму верыць. Такі парадокс.

Сем спектакляў (украінскага «Рэвізора» 1 снежня мы яшчэ пабачым) з чатырох краін, а таксама дыскусіі і сустрэчы пасля спектакляў ды нават майстар-класы па тэатральнай крытыцы. Падзеі другога тэатральнага фестывалю «Напрамак Усход» працягнуцца, бо ў Беластоцкім тэатры перакананыя, што з Усходу прыходзяць іншыя тэатральныя эмоцыі, якіх не хапае мясцоваму гледачу.

Дзіма КАРМАЗІН



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Спектакль блізкі майму сэрцу!





— Яны больш сказалі пра нашу гісторыю, чым мы змаглі перадаць на ўроках рэлігіі, — бацюшка Міраслаў Філіманюк з беластоцкага Свята-Духаўскага прыхода і настаўнік праваслаўнай рэлігіі не хавае слоў прызнання для маладых акцёраў і Іаанны Троц, рэжысёра спектакля «Айцец Канстанцін Байко». Хваліць за форму пераказу і талент, з якім паказалі трагічныя моманты гісторыі — бежанства, разбурэнне цэркваў, рэпрэсіі НКВД і палітычныя ссылкі. Што так прыгожа і ўнушальна трапілі са зместам да сэрцаў аднагодкаў...

Якраз у Драматычным тэатры прагучалі гучныя апладысменты для акцёраў! Сярод гледачоў, якіх складалі беластоцкія ліцэісты — задуменнасць, прызнанне, удзячнасць. Зніклі на момант моўныя бар'еры. Спектакль, хоць ператканы дыялогамі на падляшскай і польскай мовах, гучыць па-беларуску. У ім няма галоўнай ролі, акцёры ўвасабляюцца ў розныя постаці і здарэнні, ствараючы эмацыйнае і важкае ў гістарычным плане шматгалоссе. Высакародная асоба айца Канстанціна Байко ў віры гісторыі XX ст. — сумленне беларусаў Падляшша! Разам са зместам гучыць (з удзелам інструментаў) народная і царкоўная песні. Увагі заслугоўвае чуткае выкананне трапароў, асабліва хочацца пахваліць мужчынскі дуэт у складзе Пятро Свідэрскі і Яцак Дружба.

— Спачатку я не ўмела гэтага ўявіць, — кажа на прыгожай беларушчыне ацёрка Эва Іванюк з гайнаўскай «шасцёркі», — але пасля, калі пачалі з паняй Асяй крок па кроку ажыццяўляць сцэнарый, змест сам пачаў укладацца ў лагічную цэласць. І ён здаўся праўдзівым, блізкім майму сэрцу. Таму што гэта наша гісторыя! Гэта здарэнні, якія перажылі нашы продкі, дзяды, прадзеды. Між рэпетыцыямі мы часта гаварылі пра айца Канстанціна. Шкадавалі, што не можам з ім пазнаёміцца асабіста, таму што ён памёр у 1984 годзе, калі нас яшчэ не было на свеце.

— Ці цяжка было выявіць тыя эмоцыі?

— Напэўна гэта патрабавала многа працы, — прызнаецца Эва. — Трэба было пагаварыць з бабуляй, з сябрамі, каб пасля гэта ўсё сабе ўявіць у галаве.

Сцэнарый пастаноўкі «Айцец Канстанцін Байко» ўзнік на аснове кніжкі Дарафея Фіёніка, выдадзенай у 2016 годзе. Рэжысёр Іаанна Троц адзначыла, што некаторыя матывы п'есы ўзнікалі ў ходзе падрыхтоўкі і прэзентацый. Шмат падказак прапанавалі самі акцёры. А ў спектаклі выступаюць каларытныя індывіды: браты Кацпэр і Коля Кэчынскія, Эва Кот, Марыся Тарасюк, Юлія Скарбіловіч, Яцак Дружба, Павел Януцік, Дамініка Пуц, Оля Буслоўская, Эва Іванюк, Пятро Свідэрскі. Яны, хоць з розных гарадоў і мясцін, працуюць пры Беларускім музеі ў Гайнаўцы. Спектакль быў паказаны 26 і 27 верасня ў рамках V Фестывалю «ОДЭ». Прапанова, што прыкмецілі мы па шматлікай публіцы, была ў першую чаргу накіравана да беластоцкай моладзі, якая ходзіць на ўрокі праваслаўнай рэлігіі.

Бацюшка Міраслаў Філіманюк, які прыйшоў са сваімі ліцэістамі, адзначыў, як важна і патрэбна вывучаць сваю сапраўдную гісторыю:

— Мы не ўсведамляем, як моцна дасведчыла нас бежанства 1915 года, — кажа, — бо гэты досвед нашы людзі хацелі выкінуць з памяці, саромеліся прыніжэння. Але забыць ці замоўчваць яшчэ горш. Вось, нядаўна паказалі жыхарам Падляшша рэканструкцыю Беластоцкай бітвы. І там у ролі «камуністаў» паставілі мясцовых, праваслаўных людзей. А трэба ведаць, што ў 1921 годзе нашы людзі толькі што вярталіся з бежанства. Ды ім не было да бітваў! А тут нехта прыпісвае нам такое, каб мы саромеліся за нешта, у чым не прымалі ўдзелу.

Бацюшка Міраслаў, перад тым, як паглядзеў спектакль, бачыў выстаўку, прысвечаную айцу Канстанціну Байко.

— Ён як ніхто заслужыў права на памяць і ўдзячнасць нашчадкаў, — кажа святар і настаўнік.

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

---

Якуб САВІЦКІ
Аседле Бандары
КШ у Міхалове

## Верш

Калі еду штодзень
праз палі і лясы,
Калі ў школу мяне вязуць,
Я за шыбай бачу,
Што восень ідзе
І хіба на спіне сястру нясе.
Усюды лісце ляжыць.
Вецер лістамі гуляе
І мне дзень папраўляе.

---

УВАГА КОНКУРС!
№ 40-18

Рыжая дзяўчынка
Залезла ноччу ў двор —
Курэй пералічыла
І ўсіх панесла ў бор

(Н. Гілевіч)

Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 14 кастрычніка 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на загадку № 36: капуста.
У гэты раз не было правільных адказаў.

# Пісанне ікон — складаны працэс!

Канікулы мінулі, а я хачу напісаць пра тое, што ў нас адбылося. У ліпені пры парафіі св. Архангела Міхала арганізавалі пленэр пісання ікон. У ім удзельнічалі дзеці і моладзь у розным узросце. Сабралася 13 асоб. Дзеці з іншых мясцін маглі пераначаваць у Бельску. Апекавалася намі цудоўная пані Ірэна Каравай. Яна рыхтавала нам ежу і займалася арганізацыйнымі справамі. Пісанне ікон гэта складаны працэс, над якім сачыў бацюшка Павел Заброцкі.

У намоленай атмасферы паўсталі нашы першыя іконы. Наш пленэр завяршыўся літургіяй, у час якой настаяцель прыхода і кіраўнік іканапіснай школы бацюшка Леонцій Тафілюк асвяціў наш плён. Ён пахваліў нас і выказаў надзею, што нехта з нас у будучыні застанецца іканапісцам.

Зараз у кожнага ўдзельніка пленэру ў хаце каштоўная, напісаная сваёй рукой і сэрцам ікона.

**Вікторыя Гаць, бельская «тройка»**

Язмін

Магда Люнда

Агнешка ГРЫКА,
Плянты, ПШ у Міхалове

## Спадарыня Восень

Калі іду праз парк, лес,
Бачу восень часам,
Прыгожа адзетую,
Каляровую панну,
З валасамі кучаравымі
Як вераснёвыя верасы...

Аляксандр СЕМЯНЮК
Гімназія свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

## Удзячнасць

Сшыткі, мэбля
— чалавек дрэвы марнуе.
А дрэва ценем
і паветрам чалавека мілуе.

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Яшчарка і крот

Леў, цар звяроў, паклікаў сваіх падданых на сход. І ўсе звяры, у спеху і вялікім пачуцці абавязку, прыбеглі да цара. Леў вылез з харому, развінуў залатую грыву і грозна зароў:

— Каб вы ведалі — каб вы зналі! Кожны атрымае ад мяне зарплату па сваіх заслугах і талентах! Дакажыце — хто вы такія!

Сярод сабраных былі яшчарка агама і крот. Звяры сталі смяяцца з гадзюкі ды сляпога крата.

Што яны могуць з сябе даць каралю звяроў?

Леў, справядлівы ўладар, даў голас кожнаму па чарзе. Урэшце прыйшла чарга на яшчарку агаму:

— А ў вас якія здольнасці, чым можаце для мне прыслужыцца? — спытаў цар.

— Я магу прашмыгнуць праз камяні, пранікнуць у крэпасці і замкі тваіх ворагаў. І калі сама не змагу іх перамагчы, дык маім следам вы пераправіце войскі.

— Выдатна! — пахваліў яшчарку агаму цар.

Пасля выказаўся крот:

— Я капаю глыбокія тунэлі пад рэкамі і крыніцамі ў гарады за магутнымі мурамі. І рады служыць пры войску. Я хоць сляпы, бачу многія магчымасці, якіх не бачаць відушчыя.

— Нам такіх трэба. Малайцы яшчарка агама і крот! — пахваліў леў. — Вы атрымаеце годную зарплату!

І многія звяры засароміліся ды перасталі пагарджаць гадзюкай і сляпым кратом.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Польска-беларуская крыжаванка № 40-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 36-2018:**

Вада, гук, японка, сорт, вясёлка, мяцёлка, мы, бэз, луг, ногі, но, карал. Вы, вясло, пляц, сёмга, вясёлы, полк, горка, на, гонта, бор, эга, кракадзіл.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк** і **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Stóg
Suma
Pałac
Szyfr
Skarb
Rękaw
Trzy
Rok
Mrówki na ciele
Mur
Góra
My
Jury
Pępek
Żołędź
Miss
Śmieszek cudak
My
Car
Peruka
Calik
Si

— На Падляшшы шукаем не толькі інспірацыі для ўласнага развою. Працуем над захаваннем памяці аб шматкультурнасці рэгіёна, хочам спрычыніцца да аховы яго прыроднага культурнага багацця. Прагнем супольна ствараць месца для сустрэч з літаратурай, мастацтвам, навукай і прыродай, прастору абмену і творчых дзеянняў. Трапінка з'яўляецца інтуіцыяй напрамку, прадчуваннем сцежкі, вытаптанай у Пушчы — таксама чалавекам. Сцежкі, якая таксама часам зарастае, час ад часу паяўляецца, неспадзявана і прывабна. Якраз на ёй хочам шукаць дыялогу„ які прадбачвае гатоўнасць слухання, адабрэнне і цікаўнасць да Іншага. Дзякуючы такой адкрытасці, лягчэй будаваць супольнасць суіснавання, пракрочваючы стэрэатыпы.

# Трапінкі ў пушчы, дыялог і паэзія

❖Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

У Дварку Русо ў Свінароях каля Нараўкі група сяброў Пушчы, аматараў прыроды і энтузіястаў міжкультурнага Падляшша, жыхароў Нараўкі і яе ваколіц, гасцей з усяго рэгіёна і розных частак Польшчы і Еўропы стварылі «Трапінку — **Асацыяцыю дзеля дыялогу**». Хочуць яны садзейнічаць міжкультурнасці Падляшша, спрыяць развіццю гэтага незвычайнага рэгіёна, раздумваць над яго феноменам і ствараць прастору для сустрэч і дыскусій пра ўсё, што ім здаецца важным. Запрашаюць усіх падтрымаць свае дзеянні.

19 снежня 2015 г. згуртаванне завяршыла ўсе фармальнасці і «Трапінка» была зарэгістравана. Людзі, згуртаваныя вакол «Трапінкі», сталі працаваць афіцыйна і запрасілі ўсіх прыхільнікаў уступаць у асацыяцыю. Згуртаванне зарэгістраванае ў сталіцы Нараўчанскай гміны, але ёсць сярод іх людзі з усёй Польшчы і іншых краін. У іх няма пастаяннай сядзібы. Таму зацікаўленыя ў членстве ў асацыяцыі і яе дзейнасці могуць звязацца з імі, адправіўшы запыт на іх сайт: **www.tropinka.org**.

**Дні, калі збіраюцца** трапінкаўцы, вельмі багатыя. Рады ўдзельнічаць яны ў розных мерапрыемствах. Адным з іх быў паказ фільма «Інакіня», пастаўленага Праваслаўным брацтвам з Гайнаўкі, другім — вечар рэлігійнай паэзіі «Праваслаўе ў паэтычным слове». Сардэчна запрашалі ўсіх на дэбаты, арганізаваныя наконт павелічэння высечак у Белавежскай пушчы, лічыўшы, што гэтая тэма, такая важная для нашага рэгіёна, павінна стаць прадметам сур'ёзнай дыскусіі, выходзіўшай за межы вузкага кола спецыялістаў і не павінна спыніцца, калі сціхне шум у СМІ. Хацелі мець магчымасць гаварыць з усімі зацікаўленымі бакамі. Запрашалі ўсіх, хто мае ў душы лёс Белавежскай пушчы і заклікалі прыняць удзел у розных абмеркаваннях. Рэкамендавалі сустрэчу аб альбоме Дарафея Фіёніка пад загалоўкам «Бежанства. Дарогі і вяртанні 1915-1922». «Ён хацеў гаварыць, але ніхто не хацеў слухаць», — расказвала Віялета Шымусяк-Парэда пра свайго дзеда-бежанца; дзед сваю гісторыю ў рэшце рэшт запісаў. Адкрыты крыху выпадкова яго дзённік пачаў жыць сваім жыццём ... Паказалі фільм пра «Сярожу», чалавека з пушчы, якую ён называе «часткай раю на зямлі» — ідэйны камуніст кідае партыйны білет, ідзе ў праваслаўную семінарыю, у год ваеннага становішча ўступае ў сялянскую «Салідарнасць», а затым 30 гадоў будуе драўляныя хаты, карчмы, цэрквы. Калі ў яго спыталіся, ці будаўніку не шкада, што столькі драўніны ў лесе марнуецца, адказаў: «У свеце няма нічога дарма. Гэта наша багацце, якое мы павінны прадаваць не ў выглядзе кубічных метраў драўніны, але як цікавы, не меўшы аналагаў ва ўсім свеце свет прыроды. Тут мы можам убачыць, як ён выглядаў». Выслухалі сярод зорак вечара таксама беларускага музыку Зміцера Вайцюшкевіча-Тодара. Збіраліся, каб паглядзець новыя эпізоды серыі «Чытанне Пушчы» рэжысёркі Беаты Хыжы-Чалпінскай, творы легендарных аўтараў польскіх фільмаў пра прыроду — Бажэны і Яна Валеніцкаў, якія знялі больш за 50 фільмавых аповедаў — у асноўным пра Белавежскую пушчу, у тым ліку два першыя серыялы пра польскую прыроду, рэалізаваныя для TVP SA: «Пульс дрымучага лесу» і «Сага пра першабытны лес». Цыкл «Чытанне Пушчы» распавядае пра Белавежскую пушчу і людзей (стваральнікаў культуры, навукоўцаў, філосафаў, журналістаў, натуралістаў), якія трактуюць пушчу як месца сваёй мары, каб жыць, працаваць або весці даследаванні. Гэта не праграма строга натуральная, а хутчэй філасофская казка пра прыроду, адносіны чалавека да яе, і наша





■ Альдона Капкевіч, Наталля Малек, Міра Лукша і Малгажата Лебда

месца ў ёй. Вярнуліся да тэмы **старых садоў**, якую ініцыявалі некалькі гадоў таму. Вельмі хочуць сабраць калекцыю ўсіх сартоў садовых дрэў, якія да гэтага часу захаваліся на Паўночным Падляшшы. Для гэтага будуць інвентарызаваць старыя сады або асобныя дрэвы, каб апісаць іх, адзначыць разнастайнасць і ўзяць памаладкі для прышчэпак. Гэта не аднаразовая ініцыятыва. Інвентарызацыя і прышчапленне будуць ісці паступова ў бліжэйшыя гады. Хацелі б сабраць інфармацыю як мага хутчэй, намеціць яе на карце і падчас плёну дастацца да гэтых фруктовых садоў. Пазначэнне сорту патрабуе часта спецыяльных ведаў і ў сувязі з гэтым супрацоўнічаюць з лепшымі спецыялістамі ў краіне. Акрамя таго хочуць, каб узрасла адчувальнасць грамадства да гэтых пытанняў, каб паспрабаваць прадухіліць высечку да нашай пары пладаносячых фруктовых садоў, часта амаль стагадовых. Трапінкаўцы заклікаюць таксама абшукаць усе існуючыя ў рэгіёне Белавежскай пушчы і Даліны верхняй Нарвы традыцыйныя сарты гародніны, кветак і зёлак.

Запрашаюць да размовы: «Мы група неаднародная, якая аб'ядноўвае жыхароў гэтых раёнаў і імігрантаў з іншых частак Польшчы і Еўропы. Ёсць сярод нас людзі ўсіх узростаў, часта з вельмі розным жыццёвым вопытам, прадстаўнікі розных прафесій. Яднае нас цікавасць да культуры і спадчыны памежжа, чэрпанне радасці з адкрывання духу гэтых гістарычна мультыкультурных раёнаў, вера ў тое, што можна «прыгожа і моцна адрознівацца», і што дацэньванне гэтай адрознасці мае вялікае значэнне і вядзе да плённай дыскусіі, пашырае нашы гарызонты... Як філосаф Анджэй Ляшчынскі ў тэксце «Прыгожае слова дыялог» нагадаў нядаўна, што самае лепшае, што вынайшлі грэкі, гаворыць аб выкрочванні (дыя-) па-за сябе — па-за сваю думку (логас). **Дыялог — «розум удваіх»**, як называў яго Юзаф Тышнер — гэта адмаўленне менталітэту «глушцоў», якія такуюць усё па-свойму і глухія яны да навакольнага асяроддзя. У вузкім коле звужаецца думка, пісаў нямецкі аўтар Фрыдрых Шылер. Праўда гэта ствол, які вырастае з многіх каранёў, каб магчымым было спазнанне — павінна быць па меншай меры дзве пазіцыі. Чым больш іх будзе, тым больш надзейным будзе такі ствол. Культываванне дыялогу пачалі мы ў сваіх уласных шэрагах, запрашаем далучыцца да нас усіх, хто верыць у яго магчымасці!» «Трапінка» спрабуе ўзнавіць гісторыю леснічоўкі ў Свінароях, сённяшняга Дварка Русо.

Хто бацькі **«Трапінкі»**? **Міхал Васілюк** — гайнавянін, пражываючы ў Нараўцы, па адукацыі інжынер механік: «Адкрыванне невядомых месцаў — асабліва на Падляшшы — гэта магчымасць «аднаўлення» нашага рэгіёна, гэта радасць і задавальненне, на якія разлічваем у „Трапінцы”». **Кацярына Бяляўская** — выпускніца Варшаўскага ўніверсітэта на факультэтах педагогікі і гістарычным (прагістарычная археалогія), ад гадоў займаецца ахоўваннем шматкультурнай спадчыны рэгіёна, атрымала ў Кракаве дыплом прызнання за заслугі ў галіне аховы яўрэйскай спадчыны, удзельніца Агульнапольскай канферэнцыі «Лідары дыялогу», арганізаванай Фондам «Форум дыялогу паміж народамі». **Данель Пішчатоўскі** — германіст, літаратуразнаўца, навуковы супрацоўнік Варшаўскага ўніверсітэта. У ваколіцы Белавежы і Нараўкі прыязджае ад гадоў, прыцягваны культурнай адрознасцю і натуральнай красой гэтага рэгіёна. Хацеў бы, каб «Трапінка» стала месцам сустрэч і абмену на розных узроўнях. **Кацярына Андрасюк**, гайнавянка, англістка, аматарка творчага патэнцыялу абочын у культуры і на карце, поўная захаплення для традыцыйнага рамяства, у «Трапінцы» шукае спатканняў, размоў, інспірацыі і супольных дзеянняў гарманічнага суіснавання людзей і прыроды, а таксама радасці ад дзялення сваіх захапленняў з іншымі. **Кацярына Ляшчынская**, унучка бежанцаў, пасля вайны кінутых на «Ziemie Odzyskane», па перакананнях грамадзянка Еўропы, якая курсіруе паміж Цюрыхам, Варшавай і Белавежскай пушчай. Чаго шукае ў «Трапінцы»? Шматкультурнага Падляшша. Крытычнай і салідарнай супольнасці, адкрытай на дыялог, цікавай Іншасці. Дзеянняў дзеля Прыроды. Нішы, якая падтрымлівае развой крэатыўнасці, якая робіць магчымым супольнае дзеянне, думанне і святкаванне. **Манфрэд Бехлер** (Bächler) — швейцарскі мікрабіёлаг ад больш чым 20 гадоў «заражаны» Падляшшам, якое адкрывае да сёння, паказваючы яго турыстам з Нямеччыны і Швейцарыі. Прырода ўсходняй Польшчы нагадвае яму дзяцінства ў Фрыбургскіх Альпах, дзе, на жаль, біяразнароднасць цяпер з'яўляецца толькі ўспамінам. Тым больш цэніць прыродныя і ландшафтныя скарбы Падляшша, асабліва Белавежскую пушчу. Верыць, што ахова прыроды і развой турызму не мусяць быць «зачынены ў запаведніку», а могуць яны быць пазітыўным імпульсам для мясцовых грамад: дзякуючы цікавым

працяг ☞ 10

Летам мінулага года мастакі Уладзімір Мусько і Віктар Кабац аднавілі мастацка-разьбярскія пленэры ў Гайнаўцы, якія ладзіліся тут у шасцідзясятых і сямідзясятых гадах мінулага стагоддзя. У канцы лета гэтага года на панадворку Гайнаўскага дома культуры быў наладжаны XVI Разьбярскі пленэр, у якім прынялі ўдзел скульптары з Гайнаўкі, Беластока і Любліна. Не змог даехаць запрошаны на пленэр беларускі мастак Аляксандр Лазерка з Брэста, які ў мінулым годзе выканаў дзве вялікія скульптуры ў дубе.

# XVI Разьбярскі пленэр у Гайнаўцы

арганізацыйнымі справамі. Вясной гэтага года ён цяжка захварэў. Сёлета камісарам пленэру стаў Станіслаў Асташэўскі, старшыня беластоцкага аддзялення Саюза польскіх мастакоў «Польскае выяўленчае мастацтва». Сёлета да пленэру прыступілі гайнаўскія скульптары ў драўніне Юрый Івацік і Анна Світальская-Свіць, у якіх ёсць вышэйшая адукацыя ў дзялянцы разьбы. Я спадзяюся, што гэтыя маладыя разьбяры прадоўжаць наш пленэр і нават разгорнуць яго.

апрацоўваць, — сказаў Станіслаў Асташэўскі, старшыня беластоцкага аддзялення СПМ «Польскае выяўленчае мастацтва».

Юрый Івацік і Анна Світальская-Свіць пры скульптурах «Што дзве галавы...» і «У кракадзіла» працавалі супольна.

— Кракадзіл у нас спакойны. Вялікую двухгаловую разьбу мы выконваем з дзвюх частак, на якіх відаць твары жанчыны

вапісцы. Прафесар Януш Фалінскі з Польскай акадэміі навук выступіў з прапановай выканаць разьбу ў драўніне з паваленых у парку дрэў і з гэтага пачаліся нашы пленэры па разьбе. Наступны пленэр адбыўся ў Гайнаўцы. Пазней разьбярскія пленэры ладзіліся ў Гайнаўскім прадпрыемстве дрэваапрацоўчай прамысловасці, якое стала нам дапамагаць, — гаварыў Віктар Кабац і ўдакладніў, што стваральнікамі гайнаўскіх пленэраў былі мастакі Мікола Валкавыцкі, родам з Белавежы і Тадэвуш Болаз, а дапамагаў ім гайнаўскі настаўнік Юліюш Айжаноўскі. Дырэктар Прадпрыемства дрэваапрацоўчай прамысловасці ў Гайнаўцы


■ Віктар Кабац пры разьбе «Камень»


■ Станіслаў Асташэўскі, старшыня беластоцкага аддзялення Саюза польскіх мастакоў «Польскае выяўленчае мастацтва»


■ Юрый Івацік і Анна Світальская-Свіць пры разьбе «Што дзве галавы...»

— Гайнаўскія разьбярскія пленэры былі вядомыя ў Польшчы і Еўропе і не ведаю, чаму былі яны спынены. Гэта было вялікага маштабу мастацкае мерапрыемства, якога раней у нашым рэгіёне не было, — заявіў раней у размове са мной жыхар Бельска-Падляшскага.

Ад жывапісца і скульптара Віктара Кабаца даведаўся я, што да спынення разьбярскіх пленэраў у Гайнаўцы спрычынілася перш за ўсё ваеннае становішча, што нанесла ўдар таксама па іншых дзялянках культуры ў Польшчы і, між іншым, спрычынілася да перапынку ў выданні нашага тыднёвіка «Ніва».

— Разьбярскі пленэр арганізаваўся ў Гайнаўцы пры падтрымцы ўлад, жыхароў горада і Гайнаўскага дрэваапрацоўчага прадпрыемства і пад апекай Саюза польскіх мастакоў, якога дзейнасць была спынена з увядзеннем ваеннага становішча ў Польшчы ў снежні 1981 года. Пазней мастакі не хацелі падтрымліваць дзейнасць новага прарэжымнага мастацкага саюза, які быў арганізаваны па ініцыятыве тадышніх улад. Без мастакоў нельга было прадоўжыць разьбярскі пленэр. Быў ён адзіным разьбярскім пленэрам манументальнай разьбы ў Польшчы. Па гэтай прычыне Гайнаўка стала вядомай сярод мастакоў Нямеччыны і іншых краін Еўропы. Я таксама ўключыўся ў арганізацыю разьбярскіх пленэраў і памятаю пра іх вялікае прызнанне ў мастацкім асяроддзі Польшчы і еўрапейскіх краінах адкуль скульптары прыязджалі на пленэр у Гайнаўку. Уладзімір Мусько і я рашыліся аднавіць пленэры і атрымалі падтрымку беластоцкага аддзялення Саюза польскіх мастакоў «Польскае выяўленчае мастацтва», мясцовых улад і, канешне, скульптараў з Польшчы і Беларусі. У мінулым годзе ў пленэры прымаў удзел разьбяр з Брэста Аляксандр Лазерка, які меў прыехаць таксама сёлета. Аднак яго прыезд не атрымаўся, перш за ўсё з-за праблем з атрыманнем візы, — стаў распавядаць Віктар Кабац. — У мінулым годзе Уладзімір Мусько быў камісарам адноўленага пленэру і перш за ўсё сачыў за

Удзельнікаў звыш двухтыднёвага разьбярскага пленэру наведаў я падчас працы на панадворку Гайнаўскага дома культуры. Большасць скульптур выконвалася з таўшчэзных дрэў. Разьбяры працавалі з механічнымі піламі, долатамі і шчоткамі ў руках. Ясень, ліпа, дуб і бяроза былі прывезены для пленэру перш за ўсё з ветралому і ад прыватных прадпрымальнікаў, якія вырэзваюць старыя прыдарожныя дрэвы. Большасць удзельнікаў пленэру вырэзвалі постаці, перш за ўсё жанчын. Гайнаўскі мастак Віктар Кабац выконваў дзве скульптуры — «Камень» і «Структура».

— Скульптуру я часта апрацоўваю агнём. Ён ўваходзіць глыбока, паказвае структуру драўніны і стварае на ёй цікавыя колеры. Гэта хачу паказаць менавіта на разьбе «Структура». Другую разьбу я назваў «Камень», які з'яўляецца сімвалам трываласці і магутнасці, — гаварыў Віктар Кабац.

— Я працую пры скульптуру «Мацярынства». Тэма жанчыны прысутная пры іншых працах, якія тут выконваюцца. Другая мая скульптура гэта «Партрэт» — задуманая постаць мужчыны, якую буду яшчэ

і мужчыны, — сказалі Юрый Івацік і Анна Світальская-Свіць.

Мастакі станоўча паставіліся да ідэі аднаўлення гайнаўскіх пленэраў і намерваюцца прымаць у іх удзел таксама ў будучыні. Юрый Івацік здаўна працуе ў драўніне. Раней разам з сямейнікамі выканаў вялікі крыж, які паставілі каля Дзмітрыеўскай царквы ў Саках. На новым крыжы змешчаны старэнькі крыж, пастаўлены дзедам Юрыя Іваціка.

— Гісторыя мастацкіх пленэраў па разьбе сягае 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Гайнаўка ў сямідзясятых гадах была цэнтрам манументальнай разьбы па драўніне ў Польшчы. У Гайнаўцы адбылося 14 разьбярскіх пленэраў, на якія прыязджалі скульптары з Польшчы, ЗША, Аўстраліі, Германіі, Літвы і Чэхіі. Разьба з гайнаўскіх пленэраў паказвалася ў Нацыянальным музеі ў Варшаве, на выставах у Любліне, Кракаве і Мюнхене. З Мюнхена нават прыйшоў заказ зрабіць разьбу падчас нашага пленэру, — распавядаў Віктар Кабац. — Першы разьбярскі пленэр адбыўся ў Белавежы. Там у 1963 годзе сустрэліся мастакі-жы-

Баляслаў Суліма клапаціўся, каб была забяспечана драўніна вялікіх памераў, а працаўнікі прадпрыемства дапамагалі першапачаткова апрацаваць вялікія калоды. Калі дырэктарам ПДП у Гайнаўцы стаў Аляксей Зін, па яго ініцыятыве гайнаўскія разьбярскія пленэры набылі міжнародны характар. Патранат над пленэрамі разьбы па драўніне трымала Гайнаўскае прадпрыемства дрэваапрацоўчай прамысловасці.

Падчас XVI Разьбярскага пленэру было створаных 12 скульптур. Апрача згаданых ужо прац Станіслаў Жывалеўскі з Гайнаўкі выканаў «Інсталяцыю». Скульптуры «Сон» і «Акалечаная» выразаў Данель Ліпіян-Канюк з Любліна, а таксама люблінскі мастак Войцех Мэндзэлеўскі выканаў тры працы «Народзіны зары», «Impact» і «In vitro».

— Марай гайнаўскіх мастакоў была галерэя разьбы па драўніне ў Гайнаўцы. Цяпер хочам здзейсніць гэтую ідэю. Намерваемся з дапамогай гайнаўскага і ваяводскага самаўрадаў стварыць у нашым горадзе Падляшскую галерэю манументальнай разьбы па дрэве. Там паказвалася б вялікіх памераў скульптура. Магло б гэта быць на адкрытай і агароджанай пляцоўцы прыкрытай дахам, каб непасрэдна ад дажджу не знішчаліся мастацкія працы. Я спачатку запрапанаваў, каб такую галерэю адкрыць на панадворку Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы, бо гэта было б дадатковым атракцыёнам для нашага музея. Аднак музейны панадворак адкрыты і складана было б скульптуру там ахоўваць. Пазней мы прапанавалі выдзеліць і агарадзіць участак у гарадскім парку, але трэба было б яшчэ знайсці месца для бюро галерэі. Разважаюцца розныя канцэпцыі. Скульптура з мінулагодняга пленэру перахоўвалася на калідоры гайнаўскага філіяла Політэхнічнага інстытута. Разьбу з сёлетняга пленэру спачатку можна будзе ўбачыць на панадворку Гайнаўскага дома культуры і, праўдападобна, пасля ў філіяле Політэхнічнага інстытута, — распавёў мастак Віктар Кабац.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

8 ☞ працяг

## Трапінкі ў пушчы...

месцам працы, інспіруючым кантактам з людзьмі з усяго свету. Чаго шукае ў «Трапінцы»? «Буры мазгоў», дзеяннаў дзеля прасоўвання рэгіёна і аховы яго прыроднай і культурнай спадчыны, дыялогу і інтэлектуальнага абмену думкамі па-над межамі. **Ларс Брыгс** — дацкі біёлаг, які шмат гадоў жыў і працаваў у Белавежы, адкуль родам яго жонка Малгажата Бушко. Надалей вяртаецца на ўсход да свайго старога драўлянага дома, які адрамантаваў згодна з тутэйшай архітэктурай. Захапляе яго асаблівы культурны краявід Падляшша і яго дзікая прырода. З'яўляецца аўтарам праектаў аховы і рэнатуралізацыі заліўных тэрыторый на Белавежскай паляне і ў даліне Нарвы на адрэзку Нарва — Візна. **Аляксандра Саснова** з Нараўкі, кончыла гебраістыку, яе захапленнем з'яўляецца бацькаўшчына, яе мова, гісторыя і прырода, назірае таксама гісторыю, сацыялогію і культуру Ізраіля і Беларусі. **Іаанна Ляшчынская, Паўліна Васілюк, Марыёля Зёмэк, Магдаліна Ляшчынская, Дар'юш Шульц, Катажына Корнэцка-Налівайка, Анна Патаповіч, Марта Шульц... Лена і Мікалай Харкевічы**, жыхары рэгіёна Белавежскай пушчы ад гадоў, піянеры агратурызму і байдарак у Нараўчанскай гміне, лаўрэаты турыстычных і рэгіянальных кірмашоў, таму што бачаць і дацэняюць патэнцыял, які нясе з сабой лагодны турызм і залежыць ім на прасоўванні рэгіёна і яго ўраўнаважаным развою.



**Паэзія ў пушчы** — чарговая, другая — сустрэча (15.09.) трапінкаўцаў з усяе Польшчы — з паэткамі Малгажатай Лебдай, Наталляй Малек, Альдонай Капкевіч і Мірай Лукшай, а таксама Аннай Камінскай і Пятром Брысачам ды кнігай размоў пра прыроду «Czyżyk na drogę». Усё на прыродзе, з чытаннем твораў у розных месцах Белавежскай пушчы. Зайгралі ўвечары яшчэ Войцех Бжоска (ён жа і паэт), гітарыст Лукаш Марціняк і трубач Марцін Козер-Маркевіч.

**Анна Дугартэ**: „Сустрэча на Трапінцы, «Паэзія ў пушчы» кончыліся. Шмат цяпла, любові, разумення, страсці. Віно, смачная ежа і шмат радасці. Радасці добрай, шчырай і натуральнай. Было незабыўнае вогнішча пад акампанемент віяланчэлі. Незвычайнае. Непаўторнае. Былі моманты хвалявання і тады я падумала: «Божа каханы, Анна, не раві», але праз некаторы час, чалавек разумеў, што ён не адзінокі ў гэтых эмоцыях і адчуваннях, седзячыя побач таксама плачуць. Станавілася весялей і так добра, па-чалавечы. Эмпатычна. Добра. Менавіта дзякуючы гэтым цудоўным, незвычайным індывідуальнасцям, якія стварылі гэтую падзею. Далі рытм і красу ўсім тым перажываным момантам. Я вельмі ўдзячная, што магла быць там з вамі і атрымаць так многа станоўчай энергіі. Брацъ, і, магчыма, нават нешта непрыкметна даць ад сябе. Цікава, што мы гаварылі пра Пушчу, нашу, першабытную, якая нас прыняла любоўю і ласкай. Пушча гэта Жанчына, прыгожая! Духмяная вільготным мохам. Ветлівая і гасцінная. Прыняла нас сваім багаццем, абагрэла сонцам. Гаманіла з намі пошумам лісця, напаіла свежым паветрам. І ва ўсім гэтым, прызнаюся, гэтая падзея дапамагла мне зноў убачыць прыгажосць маёй роднай зямлі. Месца, дзе я нарадзілася і вырасла. Якому я належу, ці хачу я гэтага, ці не. Час праходзіць павольна, як быццам мусіў карпатліва прабірацца праз лісце і галінкі стагадовых дубоў. Хочацца крыкнуць: «Трывай, Пушча, ты — краса!»".

**Пётр Брысач**: «І ўсё было такое: крыху замглёнае, шчырае... Прагулка па Белавежскай пушчы і чатыры прыпынкі з паэзіяй: Міры, Малгосі, Наталлі, Альдоны... Якая цудоўная задума ... Вершы, падаючыя з неба жалуды, шэпт лістоў... А потым размова з Аннай Камінскай, якая мела быць пра прыроду і «Czyżyku na drogę», а выйшла аб чымсьці іншым... Што мы зрабілі з Аняй людзям, што яны плакалі? Што зрабілі нам Кацярына Ляшчынская, Павел Пішчатоўскі, Марцін Астрыхач? Хто зачараваў усіх нас? Хто зачараваў Міру, чытаючую пад свінаройскім дубам верш, прысвечаны Тамары Саланевіч, якая заплакала ад хвалявання? Хто сарганізаваў так свет? Я складаюся з тых, каго сустрэў у сваім жыцці, і заўсёды будуць ува мне тыя, каго я сустрэў у час гэтага свята».

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**




Моўная спадчына — адзін з найкаштоўнейшых набыткаў кожнага народа, і беларускі тут не выключэнне. Ведаючы гісторыю мовы, разумееш не толькі, чаму мы гаворым так ці інакш, але і можам прасачыць за тым, як развівалася наша грамадства, якія словы прыходзілі і сыходзілі, што захавалася і дагэтуль. І дыялекты кожнай мовы гэта таксама вялікая скарбонка для кожнага мовазнаўцы. Нездарма вучоныя выпраўляюцца ў этнаграфічныя экспедыцыі, каб паразмаўляць з жывымі носьбітамі розных гаворак і тым самым папоўніць і пашырыць веды аб мове свайго народа.

Дзякуючы цяперашняму развіццю інфармацыйных тэхналогій паспрабаваць сябе ў збіранні розных моўных асаблівасцяў можа кожны. А размесціць плён свайё працы можна на адмысловым сайце, які сёлета з'явіўся ў сусветным павуцінні і дае магчымасць даведацца, як размаўляюць людзі ў беларускіх вёсках як у Беларусі, так і каля яе.

Сайт Dialects (Дыялекты) месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://dialects.natatnik.by.** Ягоны выгляд дастаткова просты — пасярэдзіне выяўлення на галоўнай старонцы месціцца карта з пазначэннямі тых месцаў, дзе ўжо ёсць найграны маналог мясцовага жыхара. Наверсе выяўлення — выйсці на тры рубрыкі — „Аб праекце", „Даслаць аўдыё" і „Аўтары".

„Не трэба доўга скардзіцца на малую пашыранасць беларускай мовы — трэба проста гаварыць на ёй. Не трэба казаць, што праз 10 год усе дыялекты вымруць — трэба іх папулярызаваць. Што мы з вамі ўсе разам і зробім з дапамогай праекта Dialects. Мы будзем наносіць на мапу гаворкі карэннага насельніцтва ўсіх беларускіх вёсак і гарадоў, а таксама сумежных з Беларуссю тэрыторый, каб паглядзець, як далёка нашы дыялекты распаўсюджваюцца і чым яны падобныя або, наадварот, адрозніваюцца ад суседскіх. Безумоўна, дыялектолагі даўно вывучаюць гаворкі і без нас з вамі, але іх мапы, па-першае, графічныя, па-другое, вузкаспецыяльныя, служаць мэтам апісання і класіфікацыі. Адрозненне нашай мапы ў тым, што гаворку можна будзе паслухаць. Вашы бабулі і дзядулі, мамы і таты на сваёй мове распавядуць пра шматлікія бакі жыцця беларуса, а мы зможам самастойна зрабіць высновы, чым жа ўсходнія дыялекты адрозніваюцца ад заходніх. І чым унікальная гаворка вашай — так, менавіта вашай — вёскі", — палымяна распавядаецца на старонцы „Аб праекце".

Пакуль аўтарамі, а таксама стваральнікамі сайта выступаюць тры асобы — Іна Хоміч, Максім Хлябец і Аляксей Жук, якія паходзяць з Берасцейшчыны. Паводле інтэрв'ю, якое яны далі беларускаму інтэрнэт-парталу Tut.by, на рэалізацыю дадзенага праекта ў іх пайшло некалькі месяцаў, і ўжо цяпер на сайце больш за 50 найграных маналогаў жыхароў розных беларускіх вёсак. Прычым гэтыя прамоўцы не толькі з Беларусі, але і з Падляшша.

Для тых, хто хоча таксама паўдзельнічаць у стварэнні карты беларускіх гаворак, у рубрыцы „Даслаць аўдыё" месцяцца правілы, паводле якіх такі аўдыёзапіс будзе выстаўлены на сайт. „Тэмы размоў могуць быць самыя розныя: ад традыцыйных абрадаў і песень да абмеркавання надвор'я. Галоўнае, каб гэта было цікава і каб было зразумела, пра што ідзе гаворка", — пішуць стваральнікі „Дыяектаў", папярэджваючы, што найграны тэкст не павінен утрымліваць нецэнзурнай лексікі і мовы варожасці.

**Аляксандр ЯКІМЮК**




## 130 гадоў з дня нараджэння Лукаша Дзекуця-Малея

Беларускі грамадскі і рэлігійны дзеяч Лукаш Дзекуць-Малей нарадзіўся 1 кастрычніка 1888 г. у вёсцы Вялікія Шастакі (Дзятлаўскі раён). Паходзіў з сям'і настаўніка, маці — Марыя з Тарасевічаў, бацька Мікалай. У чатыры гады асірацеў. Да 16 гадоў выхоўваўся ў сям'і педагогаў Фунтаў. Скончыў слонімскую сярэднюю вучэльню, настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам, пазней інспектарам народнай адукацыі. Служыў у расійскім войску ў Беластоку, дзе пазнаёміўся з вернікамі евангельска-баптысцкага веравызнання, стаў наведваць іх малітоўныя зборы. У ноч з 31 снежня 1911 на 1 студзеня 1912 г. у Беластоку на рацэ Супрасль ад прасвітара Рамана Хамяка прыняў водны хрост паводле баптысцкага абраду.

У 1912 г. пачаў прапаведаваць, за што быў арыштаваны ў мястэчку Лыскава (Пружанскі раён) і прывезены ў турму ў Брэст. У 1913 г. стаў студэнтам першых біблейскіх курсаў евангельскіх хрысціян у Пецярбургу. У 1915 г. пачаў вучыцца ў духоўнай семінарыі. Пазней заняўся душпастырскай працай у Гродне. У канцы 1918 г. прызначаны літоўскім урадам камісарам акругі Крынкі-Луна. Удзельнік Гродзенскага беларускага сялянскага з'езда 15-16 снежня 1918 г., на якім быў абраны ў Гродзенскую павятовую раду і аргкамітэт па скліканні Краёвага беларускага з'езда. Быў сябрам Камітэта нацыянальнага адраджэння Беларусі, клуба „Беларуская хатка". Двойчы арыштоўваўся. Адзін з ініцыятараў стварэння Грамады беларускай моладзі ў траўні 1919 г. Скарбнік арганізацыі і актор яе драматычнай секцыі. З ліпеня 1919 г. — старшыня Гродзенскай цэнтральнай беларускай настаўніцкай рады, з чэрвеня 1920 г. — Гродзенскай беларускай школьнай рады. Кіраўнік беларускага дзіцячага прытулку. Скончыў беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні.

У сярэдзіне лістапада 1919 г. адаслаў у Вільню пратэст ад імя гродзенскіх беларускіх арганізацый супраць літоўскіх замахаў на Гродзеншчыну. Тады ж Антон Луцкевіч пры сустрэчы перадаў Пілсудскаму сабраныя Дзекуць-Малеем матэрыялы пра перашкоды з боку польскіх улад для беларускіх школак на Гродзеншчыне. Атрымаў ад Луцкевіча для беларускіх арганізацый 25 тысяч марак. Неўзабаве арыштаваны ўладамі Польшчы трэці раз.

На пачатку 1920 г. — сябра Гродзенскага БНК. Быў кіраўніком пададдзела ясляў і прытулкаў. Узначальваў гарадзенскіх баптыстаў і выпускаў баптысцкі друкаваны орган на беларускай мове. Летам 1921 г. арыштаваны і вывезены ў Беластоцкую турму. З 1921 г. — сябра Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны.

З канца 1921 г. жыў у Брэсце, куды быў высланы польскімі ўладамі. Пачаў прапаведаваць у акрузе і стварыў суполку евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Супрацаваў з Грэгарам — кіраўніком баптысцкай місіі ў Лодзі. Хрысціў дзеяча „Зялёнага дуба" Уладзіміра Ксяневіча-„Грача". Пераклаў 17 рэлігійных брашур на беларускую мову, разам з А. Луцкевічам выдаў у 1931 г. „Новы Запавет" і „Псальмы". У 1927 г. адкрыў малітоўны дом, пры якім арганізаваў кравецкія і пчалярскія курсы.

19 чэрвеня 1941 г. арыштаваны ў Брэсце НКВД, прыгавораны да расстрэлу. Вызвалены з прыходам нямецкіх войскаў. У вайну — прасвітар беларускіх баптыстаў. У 1942 г. у Менску выдаў хрысціянскі спеўнік на беларускай мове. У 1943 г. за дапамогу яўрэям высланы нямецкімі ўладамі ў лагер працы ў Ліпяны каля Шчэціна. У 1944-1945 гадах жыў у Нямеччыне, потым у Польшчы. Быў баптысцкім прапаведнікам і прасвітарам у Гданьску. Памёр 20 студзеня 1955 г.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

1 ☞працяг

# Сапфірны юбілей

**сваіх вершах намагаешся захаваць ад забыцця — там можна знайсці фрагменты таго свету, які або знікае на нашых вачах, або яго ўжо па сутнасці няма.**

— Я цягам шматлікіх гадоў сустракалася з людзьмі і ведаю, што кожны з'яўляецца паэтам. Натхненне з'яўляецца часта — ці то хтосьці арэ поле, ці тчэ дываны, ці доіць кароў. І часам чалавек не мае часу, каб запісаць тое, што адчувае, што думае. Часам запісваю, часам прашу некаторых глыбока ўдумлівых асоб, каб яны занатавалі, каб яны пазмагаліся са словам, каб узялі пяро і спрабавалі запісаць. Акружаюць мяне паэты, ёсць мноства між нас паэтаў і адчуваю гэтае жывое месца пагранічча, дзе ўсё жыве, развіваецца, гэта гарачыя вароты, дзе адбываецца цяперашні час і ўвесь час праходзяць людзі, якія тут былі, эмоцыі, той дух, які тут трывае. У мяне такое ўражанне, што вельмі часта кранаюць мяне былыя эмоцыі. Часам бачу або адчуваю некаторыя з'явы больш чым хто іншы. Паэт павінен адчуваць той павеў, той дотык часу на сабе; і гэта часта вельмі балючае.

**— Ты журналістка і бываеш перадатчыкам, апавядаеш гісторыі спатканых Табою асоб.**

— Часам людзі адкрываюцца перада мною, часта празмерна, жанчыны снуюць свае расказы, пачынаючы на свой лад спавядацца. Гэта знайшлося ў маёй падборцы замалёвак, „Бабскія гісторыі". А ў вершах гэта свайго роду балады, прысвечаныя камусь, маё бачанне іх ролі для нас. Гэта і пошукі майго радаводу, глыбіннасці нашай зямлі. Часта гэта не гістарычная кніга, але сядаю за даведнік, бо каб напісаць, то трэба мець веды на тэму, трэба пісаць праўду. І калі падпісваюся сваім імем то ведаю, што апісваю тое, што адчуваю; і гэта астаецца. Ведаю, што слова запісанае важнае не толькі мне.

**— Радавод важны Табе...**

— Бо гэта таксама радавод слова, якое наводзіць сваю асацыяцыю, разбуджае думку. А беларуская мова жывая, гэта не адно нейкая вясковая мова, на якой немагчыма ўсяго выказаць — гэта словы прыгожыя, якія астануцца са мною.

**— Важным у Тваім асабістым космасе месцам з'яўляецца „Ніва", рэдакцыя.**

— „Ніва" гэта незвычайнае месца, у якім гуртаваліся незвычайныя людзі. У іх ліку прысутны тут Віктар Швед, мой настаўнік, першы жывы паэт, якога я пабачыла ў семяноўскай школе, і які піша вершы, якія ўсе разумеюць. Мне пашчасціла трапіць у „Ніву" па сутнасці дзіцём, а пасля і сама туды трапіла, дзе тады працавала пакаленне маіх бацькоў: Георгій Валкавыцкі, Яніна Чэрнякевіч, Вера Леўчук ды іншыя, якія зразу сталі маімі бацькамі другімі бацькамі. Яны ўжо тады наракалі, што пасля іх нікога ўжо не будзе. Але мы працуем і пакаленне нашых дзяцей ужо піша ў „Зорку", пачынае задумвацца над сваёй тоеснасцю. „Ніва" гэта таксама такая хроніка нашага падляшскага жыцця, такіх звычайных людзей, якія аруць, сеюць, ствараюць.




**— Ад Твайго дэбюту мінула 45 гадоў. Гэта тысячы напісаных слоў, соткі тэкстаў. Ці ў іх ліку ёсць такія, якія з сённяшняй перспектывы лічыш асабліва важнымі, пераломнымі?**

— Я часам гартаю даўнія нумары „Нівы". Гляджу тэксты пра важных мне асоб. Паэт усё даспявае, становіцца больш разумным, спрактыкаваным, становіцца быццам такім старцам, які штораз бліжэй зямлі, укаранелы як дрэва ці як траўка, як частка прыроды, частка таго месца, з якога вырас. А вершы самі прыходзяць, часам быццам з космасу з'яўляюцца, гэтак як нехта заўважыў, дзіця пасылае на зямлю Бог, выбіраючы яму тут маму. І верш сыходзіць з космасу, а я яму толькі перадатчыкам, запісваю задумліва кожную літару, быццам пішу крывёю. Некаторыя вершы перачытваю плачучы, бо іду ўсё ў бок чытачоў, такіх як мы, людзей культуры, якія чакаюць свайго паэта цягам доўгіх гадоў, і ён прыходзіць.

**— Каму лягчэй пісаць: дарослым ці дзецям?**

— Дзецям пішацца з вялікай радасцю. Тады мушу быць цёцяй Мірай, але такой маленькай; шмат дзяцей называе мяне менавіта цёцяй Мірай. Але я не толькі дзіцячай паэткай, я таксама паэткай народнай, бо адзін з маіх вершаў стаў асновай папулярнай у Беларусі песні. Быў час, калі я пісала сатырычныя творы, дзеля хлеба, і ўкармілася да такой паўнаты як цяпер...

* * *

Былі ў час сустрэчы і неспадзяванкі, адмысловыя віншаванні. Спадар Збышак Насядка праспяваў Юбілярцы палескую народную песню, а згаданы наш літаратурны мафусаіл Віктар Швед прачытаў адмысловы верш прысвечаны гэтаму літаратурнаму юбілею. Былі таксама кветкі ад Маршалкоўскай управы і ад Падляшскай ксёнжніцы.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Адгаданка

**1.** зматаныя ў шарык ніткі, **2.** брат дачкі, **3.** счэпліванне ў ходзе марскога бою свайго судна з варожым для рукапашнай схваткі, у якім... бард, **4.** горад на Нямізе, **5.** венскі танец, **6.** неядавітая змяя сямейства паўзучых, **7.** Зялёныя сляткі, у якіх... муха, **8.** сяброўка гускі і курыцы, **9.** даўняя назва вялікага паўднёваў'етнамскага горада, **10.** хларыд натрыю.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | |
| 1 | | | | | | 2 | 3 | 4 | |
| | | | 5 | | | | | 6 | |
| | | | | | | | 7 | | |
| 8 | 9 | | | 10 | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 37 нумара**

Акно, алея, карніз, кебаб, Ленін, Сталін, хакей, шчака, ясак.

Рашэнне: **Калі не хочаш каб табе селі на карак, не кланяйся нізка**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 07.10 — 13.10

**(22.03. — 20.04.)** Чакае цябе шмат выклікаў, не будзе нудна. Мноства спраў на галаве, але і вялікі прыліў энергіі. 9-11.10. дацэніш каханую асобу. 9-13.10. будзеш мэтай для атакі канкурэнцыі. З перашкодамі справішся. Вялікіяператусоўкі сярод знаёмых. Не ўцячэш ад нялёгкіх асабістых рашэнняў. Не правейся і не прастынь.

**(21.04. — 21.05.)** У кастрычніку паявіцца некалькі выдатных нагод для адмены лёсу. Зоркі памогуць у калектыўнай працы. Канкурэнцыя будзе мусіла з табой лічыцца. Магчымыя флірты і раманы, але без працягу. Сярод радні і сяброў будзеш сапраўдным скарбам. На працы дачакаешся прызнання і ўзнагароды. 9-13.10. дасканалы час на рэалізацыю праектаў, якія даўно табе хадзілі па галаве. Вяртанне да добрай формы.

**(22.05. — 22.06.)** Незалежна ад перашкод удасца зрэалізаваць важныя справы. Справішся з хвастамі. Самотны Блізнюк спаткае кагосьці, з кім будзе яму вельмі добра размаўляцца. 6-7.10. лепш не выбірайся ў дарогу і ў госці. 10-12.10. усё будзе табе псавацца, нічога адзін не ладзь, сам таксама ляж лепш у ложак. Энергія будзе цябе пхаць да новых задач, але давядзі да канца старыя.

**(23.06. — 23.07.)** Увесь месяц вялікая падтрымка зорак. Кар'ера прыспешыць, а дом напоўніцца гоманам і смехам. Трэба будзе заняцца важнымі справамі. 8-10.10. блізкія могуць патрабаваць ад цябе лішняга. 10-12.10. лепш не выбірайся ў падарожжа. 9-13.10. пакажаш, які ты патрэбны ў фірме (Ракі з другой дэкады няхай не псуюць адносін з калегамі). Буйнае кампанейскае жыццё; не аб'ядайся і моцна не напівайся.

**(24.07. — 23.08.)** Паявіцца гарачае пачуццё. Але не забывайся пра працу і занятку. 9-11.10. можа папсавацца гармонія ў пары. У кастрычніку Венера не прадбачвае вам добрых вестак. Новае спатканне можа затрэсці фундаментам жыцця! Спрэчкі і непаразуменні са сваякамі; можаш стаць негацыятарам (8-10.10.). На працы мноства амбітных планаў, многа з іх схочаш зрэалізаваць, але не чапай нічога да 18.10. Жыві ў згодзе з унутраным гадзіннікам.

**(24.08. — 23.09.)** Паявяцца грошы, на якія зусім не разлічваеш 8-10.10. 11-13.10. можаш сфіналізаваць важны прафесійны праект. Шанцы на шматабяцальнае знаёмства і лепшую працу. Грошай хопіць. Можаш правесці змены, якія спросцяць тваё жыццё. Добра зробіць той, хто цябе паслухае. Добры настрой і дасканалая форма.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш рашучы і будзеш ведаць, як дайсці да шчасця. 8-10.10. атрымаеш новы імпульс да дзеяння. Пазмагаешся за прызнанне, хоць перашкод будзе нямала. Прылыў пачуццяў у парах са стажам; загарыцца асабліва 9-13.10. Добры час на рамонты, хаця будзеш шкадаваць стар'я. Аўра спрыяе ў прафесіі, запал, добрыя лады.

**(24.10. — 22.11.)** На свет глянеш ветлівым вокам, а свет адкажа табе таксама. Хаця 9-13.10. прытрапяцца непатрэбныя канфлікты. Будзеш ваяўнічы, творчы, маеш сімпатыю шэфа і супрацоўнікаў. Справы блізкіх будуць для цябе бліжэйшыя, чым свае. На працы 9-13.10. будуць нагоды, каб выйсці па-за схемы, новыя задумы, новыя метады дзеянняў. Але аж да 22.10. кепска з імунітэтам; лыгай вітаміны і дабаўкі для ўзмацнення.

**(23.11. — 22.12.)** Пазбягай рызыкі і ўваходжання іншым у дарогу — будзеш мець шанц на ўдалы ўвесь месяц. 9-13.10. у пары пагарачэе. Хаця 8-10.10. хтосьці злосна цябе папракне. Аптымізм, энергія. Плануй службовыя падарожжы, сустрэчы з кліентамі і іншыя. Удачуца негацыяцыі, а хто шукае працу, няхай хутка рассылае СіВі. Але Стралец з другой дэкады 9-13.10. можа страіць працу, дык не дыскутуй з шэфам і прыкладвайся да работы. Варушыся на свежым паветры.

**(23.12. — 20.01.)** Больш працы, новыя выклікі, але справішся з усім і дачакаешся немалога прызнання. Стабілізацыя і сіла стаць перад ворагамі. Шматлікія кантакты. Сціхнуць спрэчкі, пачнуцца імпрэзы. Здабывай новыя ўмеласці — будуць пропускам да лепшага занятку. 9-13.10. станеш вока ў вока перад вельмі патрабавальнай і суворай асобай. 8-10.10. не пераборшч з патрабаваннямі. 11-13.10. больш навучышся ад дасведчаных.

**(21.01. — 19.02.)** 8-10.10. новыя творчыя інспірацыі. 9-11.10. зазззяеш падчас сходаў, абучэнняў, і атрымаеш цікавую прапанову. Пакажаш поўню сваіх умеласцей. Будзе дзеяцца ў мужчынска-жаночых справах! Займуць цябе справы блізкіх. Будзеш моцны, энергічны, але падмацоўвайся каларыйнымі стравамі, можаш дазволіць сабе і на дэсерты!

**(20.02. — 21.03.)** Узрасце твая папулярнасць, новыя знаёмствы, сяброўства. Але 7-9.10. прыйдзецца табе даць згоду на тое, чаго не хочаш. Зоркі спрыяюць у амбітных планах, змятуць перашкоды, папраўяць адносіны. Кончыш з ныццём і марудлівасцю, хаця будзеш крыху лянівы. Пільнуйся ад грыпу, адразу кладзіся ў ложак!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.



# Як пушчанскія хлопцы жаніліся з абманам?

Мужык, хоць і залаты — адвечны боль галавы і клопат жаночага роду. Трэба даценіць яго залёты, але ніколі не верыць у яго дашлюбныя абяцанкі. Няхай сабе прысягае і сыпле падарункамі — гэта яшчэ нічога не значыць.

— *Колісь то нэ жэнілісь як тэпэр, што то бэрут старэйшых і всякіх*, — сцвярджае 89-гадовая Люба з пушчанскай вёсачкі Занавіны.

Карацей, усе пільнавалі, каб не засядзецца ў дзеўках. Бо тады іншая песня, кавалеры абміналі двор, а ў сваты прыходзілі ўдаўцы або такія, якіх адно град не дабіў...

А тут на ўвесь Вярховіцкі прыход сенсацыя! Да Філіпавай Надзі пасватаўся кавалер. Стройны, зухаваты, пры грошах...

— Яна то дзеўка хоць і старэйшая, нічога сабе была, — дадае баба Люба. — Усё ў яе як трэба, у царкву хадзіла. Толькі што без пасагу! Чаму ён такую бярэ? — дзівяваліся людзі. Тут ужо папрыходзіла многа маладых з Германіі, усе замуж хочуць... А ён — не! Яму адна Надзя ў галаве.

— Можа закахаўся ў яе без памяці? — гадаю ўголас.

— Ну хай сабе і закахаўся, — ігнаруе з усмешкай маю заўвагу баба Люба. — Паслухай, што яны натварылі...

У нядзелю, калі назначылі шлюб, зрушылася ўсё наваколле.

— Я таксама пабегла з сёстрамі ў Вярховічы паглядзець *вінчэльнік*, — прыгадвае старажылка. — А пад царквой народу — як у прыхадскі *празнік*. Ну, тая Надзя ўжо прыехала з дружбантамі і чакае маладога. Чакаюць, глядзяць на дарогу, аж тут вядуць маладога. Мы яго не ведаем — дык думаем, што ўсё правільна. А яны замест таго стройнага кавалера, кульгавага пад вянец ставяць. І няма ўжо выхаду — усё падрыхтавана, госці з'ехаліся. То хоць і з абманам, але абвянчалі маладых... Ды ўсё ў сям'і засталося, — прадаўжае сенсацыйны аповед канца 40-х гадоў баба Люба, — бо той кавалер, які нібыта сам хацеў жаніцца, падставіў пад вянец брата-калеку... А сам дзесьці з'ехаў...

— О Госпадзі! — абураюся пачутым. — І да чаго гэта давяло?

— Яны не важна з сабой жылі, — кажа мая субяседніца, — ды хутка паўміралі. Апошняя звестка займае мову. Маўчым хвіліну, шукаем адпаведных слоў да пачутага. Але гаварушчая баба Люба як з рукава сыпле ўжо чарговай гісторыяй пра замужжы з абманам:

— Тут не трэба далёка шукаць, — заяўляе жанчына, — ды ў нашай радні было такое вяселле.

* * *

Другая гісторыя разыграецца ў міжваенны перыяд, на зломе дваццатых і трыццатых гадоў. Тут падобную інтрыгу змайстраваў пляменнік мужа маёй субяседніцы. Ён абдурыў не толькі маладую дзеўку, але і роднага бацьку. Усё, каб ажыццявіць свой пакручасты і шалёны план. Яго адчай і рашучасць ажно наклікалі маё прызнанне. Праўда, калі баба Люба паказала фатаграфіі таго сваяка, я зноў абсела на падляшскі грунт. На ім абманшчык-сваяк напамінаў тыповага дзядзьку з Арэшкава ці Тапіла. Ён выстойваў у кампаніі дзябёлай жонкі, якая відавочна дамінавала ў іх абжытым і сытым сужонстве...

Але тады, на зломе дваццатых і трыццатых, калі назначылі дзень яго шлюбу, сваяк падпаліў за сабой усе масты. Яго крывадушнасць з перспектывы часу аказалася апраўданай і нават геройскай. Баба Люба не памятае, каб у сям'і папракалі яго за матрыманіяльны абман. Хутчэй за фокус, які змайстраваў бацьку. Карацей, у дарозе да шлюбу ён непрыкметна знік. Маладая, што чакала яго ў Вярховічах, абамлела ад нерваў. Нервы панеслі і ягонага бацьку, які пакінуў пад царквой вяселле і прымчаў дахаты, каб высветліць адсутнасць неадказнага сына.

— Ён да каморы, а там замок у сундуку сарваны, — апавядае баба Люба, — дык бацька адразу здагадаўся. Тое вяселле Рыгор прыдумаў, каб здабыць грошы. А калісь, калі сватаўся добры хлопец, пасаг давалі. Дык ён схапіў пасажныя грошы і знік. Бацька, каб ратаваць славу і неяк выграбіцца з прапаўшага пасагу, прымусіў малодшага сына жаніцца з падманутай дзеўкай.

— А што з Рыгорам? — пытаю.

— Ён спачатку прапаў, — працягвае свой расказ мая субяседніца, — а праз некалькі гадоў прыязджае з Амерыкі, прывозіць бацьку долары і зноў хоча жаніцца ў Вярховічах.

* * *

І ў гэтым месцы яшчэ раз звернемся да дваццатых гадоў XX стагоддзя, а ўвесь расказ проста з Вярховіч і Занавінаў прывядзе да нашага Арэшкава.

— Мой муж нарадзіўся ў час вялікай галечы, — апавядае баба Люба. — Людзі, толькі што вярнуліся з бежанства. Тут хрысцін няма за што выправіць. Дык адзін брат маёй свекрыві забіў зубра на мяса. Хрысціны то справілі, але таго Івана пачала шукаць паліцыя. Нехта данёс і ён як браканьер мусіў хавацца. Дык ён спачатку хаваўся ў сям'і ў Арэшкаве, а пасля нейкім цудам патрапіў у Амерыку. Там ужо былі хлопцы з нашых старон. І калі той Рыгор, які прыходзіўся для Івана пляменнікам, дастаўся ў Амерыку, дзядзька яму ва ўсім дапамог. Рыгор хутка дабіўся кіраўнічага месца ў ліцейнай фабрыцы, прыдбаў грошы і вярнуўся на бацькаўшчыну, каб ажаніцца з Еленай з Малочак.

— Ён прыехаў спецыяльна па жонку, — адзначае баба Люба, — ажаніўся і вярнуўся з ёй у Амерыку. А нам увесь час дасылаў пасылкі. Для майго мужа, які быў інвалідам і займаўся сталяркай, даслаў сталярскія прылады. А нам — палатно на сукенкі і кофты. Ён жа бачыў па картачках як мы адзеты. Голад і галеча тады ў калгасах панавалі. Дык ён нас ратаваў, небарака...

— А як склалася жыццё таго брата Рыгора, якога бацька, каб ратаваць гонар, прымусіў жаніцца з абманутай дзяўчынай?

— Ніяк не склалася, — заяўляе без лішніх страсцей баба Люба. — У іх не было дзяцей і яны самі хутка памерлі. Дзядзьку Івану, які прыдбаў вялікі капітал і марыў, каб яго пахавалі на могілках у Вярховічах, таксама не пашанцавала. Пад канец жыцця абдурыла яго нейкая *ўласаўка*. Жанчына захапіла ўсю маёмасць, спаліла яго цела, косці ды кінула ў нейкую безыменную яму, каб ніхто не прыйшоў і не заплакаў на яго магіле...

❖ Тэкст і фота **Ганны КАНДРАЦЮК**

*Рэпартаж узнік дзякуючы творчай стыпендыі Маршалка Падляшскага ваяводства за 2018 год.*




## XXI Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы" аб'яўляе XXI Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы «ДЭБЮТ». У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

### ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XXI Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

### ТЭРМІНЫ

**1.** Тэрмін дасылання да 31 кастрычніка 2018 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў лістападзе 2018 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.

ISSN 0546-1960 40